**Аляксандар Лукашук. Сьлед матылька. Освальд у Менску.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Публікацыі і архіўныя матэрыялы выкарыстаныя з дазволу:
The Mailer Estate, New York («Oswald's Story» Н. Мэйлера);
выдавецтва «MonLitera», Менск («Oswald: Russian Episode» Э. Цітаўца);
Дзяржаўнага архіву кінафотафонадакумэнтаў Беларусі, г. Дзяржынск.



ISBN 978-0-929849-41-6



# Зьмест



*— Не, быць ня можа. Не з-за такой малой рэчы. Не! З камяку бруду выблісквaў зеленьню, золатам і чэрню матылёк, вельмі прыгожы і вельмі мёртвы. — Не з-за такой драбніцы! Не з-за матылька!*

Рэй Брэдбэры. І грымнуў гром

## Замест прадмовы

У 1952 годзе, калі герою гэтай кнігі Лі Освальду было 13 гадоў і падлеткі зачытваліся фантастыкай, амэрыканскі пісьменьнік Рэй Брэдбэры апублікаваў самае вядомае сваё апавяданьне «І грымнуў гром» (па колькасьці перавыданьняў у сваім жанры яно займае першае месца ў сьвеце).

... На раніцу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў герой Брэдбэры ідзе ў кантору, якая арганізуе падарожжы ў часе, бо лепш адправіцца ў мінулае, чым жыць пры новым прэзыдэнце-дыктатары. Аднак высьвятляецца, што выбары ўсё ж выйграў яго супернік, і герой зь лёгкім сэрцам адпраўляецца ў мінулае на паляваньне. Там ён выпадкова расьціснуў матылька, і калі вярнуўся, аказалася, што ў выніку ланцужка падзеяў рэчаіснасьць зьмянілася, і прэзыдэнтам стаў дыктатар. Апошняе, што чуе герой — гром стрэлу, які абрываюць яго жыцьцё і ягоную ролю ў гісторыі...



Забойства амэрыканскага прэзыдэнта Джона Фіцджэральда Кенэдзі Лі Гарві Освальдам — самая вялікая ў гісторыі чалавецтва сьледчая справа, якая налічвае больш за чатыры мільёны аркушаў арыгінальных дакумэнтаў, ня кажучы пра кнігі, фільмы, тэлесэрыялы — у тым ліку пра падарожжа ў часе ў 1963-ці, каб спыніць забойцу. Быў нават м'юзыкал.

Свае пяць капеек у гэтую гісторыю я ўставіў яшчэ калі хадзілі пятакі зь дзяржаўным гербам СССР: пераклаў і апублікаваў яго «Гістарычны дзёньнік», пазьней быў кансультантам амэрыканскай здымачнай групы тэлекампаніі Frontline, якая на пачатку 1990-х здымала ў Менску фільм «Хто быў Лі Гарві Освальд?», даваў інтэрвію і выступаў з аповедамі пра менскі пэрыяд героя падчас паездак на яго радзіму.

У СССР 1960-х амэрыканец, які па сваёй волі прыехаў сюды жыць і працаваць, успрымаўся як матылёк зь іншай плянэты. Менск часоў Освальда цяпер — таксама ўжо іншая плянэта, дзе лётае загадкавая чужародная істота.

І ўвесь час за ёй паварочваецца пільнае вока і вуха.

За Освальдам у Менску назіралі, як энтамоляг назірае за чэленістаногай казуркай атраду лускакрылых. Вывучаюцца стадыі жыцьцёвага цыклю — яйка, вопрадзень, вусень, імага, фіксуюцца звычкі, рухі, маршруты, харчаваньне, сэксуальныя функцыі, здольнасьць да мімікрыі, узаемадзеяньне з асяродзьдзем, спэцыфічныя навыкі, рэакцыя на раздражняльнікі, экалёгія...

Разьдзел энтамалёгіі, які вывучае матылькоў, называецца лепідаптэралёгія. Разьдзел дзяржавы, які вывучаў людзей, называецца — кадэбэ.

Амэрыканскі пісьменьнік Норман Мэйлер стаў першым і адзіным дасьледнікам, які атрымаў доступ да «калекцыі» КДБ у Менску, абмежаваны і фрагмэнтарны, але ў спалучэньні з успамінамі сваякоў, сяброў, знаёмых героя дастатковы, каб яго кніга «Гісторыя Освальда» ўзьляцела ў сьпіс бэстсэлераў.

Мінулай вясной я панёс кветкі на магілу аднаго свайго даўняга амэрыканскага знаёмага-вэтэрана, якога пахавалі на Арлінгтанскіх могілках у Вашынгтоне, і потым падняўся на ўзгорак, дзе спачывае 35-ты прэзыдэнт ЗША.

Падыходзілі сем'і, турыстычныя групы, студэнты — нацыянальная памяць дагэтуль ня можа зьмірыцца з раптоўнай брутальнай і бессэнсоўнай стратай.

Гэтая кніга не пра тое, хто і як забіў Кенэдзі.

Хутчэй — спроба аднавіць сьляды, якія пакінуў у менскім паветры паўстагодзьдзя таму адзін матылёк.

Літаратурны ляндшафт пасьля Освальда выглядае як пасьля рэйду цяжкога бамбавіка, а яго біяграфія — як гісторыя сусьветных войнаў.

Хоць насамрэч — матылёк праляцеў.



## У ГУМ заднім ходам

7 студзеня 1960 году ў 8 гадзін 23 хвіліны раніцы з купэйнага вагона маскоўскага цягніка № 9 на пэрон Менскага вакзалу ступіў 20-гадовы амэрыканскі грамадзянін у салдацкай шапцы-вушанцы й бяз пашпарта — ён здаў яго ў амбасаду ў Маскве, заявіўшы пра жаданьне застацца ў СССР, пасьля чаго праз два з паловай месяцы чаканьня і спробы самагубства атрымаў 5000 рублёў ад Чырвонага Крыжа, накіраваньне на працу і жытло ў сталіцы Беларусі, дзе праз год ажаніўся, а калі нарадзілася дзіця, разам зь сям'ёю вярнуўся ў ЗША, каб а 12:30 у суботу 22 лістапада 1963 году з вакна шостага паверху даласкага кніжнага складу з адлегласьці 50 мэтраў з італьянскага карабіна Манліхер-Каркана калібру 6,5 мм першым стрэлам параніць 35-га прэзыдэнта ЗША Джона Кенэдзі, другім — губэрнатара Тэхаса Джона Коналі, трэцім — дабіць прэзыдэнта, затым на вуліцы рэвальвэрным стрэлам у галаву забіць афіцэра паліцыі Джэй Ды Тыпіта, і праз 46 гадзінаў 51 хвіліну, падчас пераводу з пастарунку

ў турму, пры ўключаных камэрах у простым эфіры амэрыканскага тэлебачаньня атрымаць ва ўпор кулю з Кольта-Кобры 38 ад мясцовага жыхара Джэка Рубі, і пасьля ўскрыцьця трупа ў моргу ды іншых фармальнасьцяў быць закапаным на могілках гораду Форт Ворт у яме, побач зь якой дзесяцігодзьдзямі ня будуць хаваць нікога.

Так скончылася адно жыцьцё Лі Гарві Освальда і пачалося другое.

У новым жыцьці нешта, вядомае як «Лі Гарві Освальд» ці «ЛГО», стала аб'ектам гістэрычнай увагі палітыкаў, журналістаў, пісьменьнікаў, героем шматлікіх расьсьледаваньняў, публікацыяў, кніг, фільмаў, прадметам абмеркаваньня Кангрэсу ЗША і Палітбюро ЦК КПСС, галаўным болем для ФБР, ЦРУ і КДБ. Яго выкопвалі з магілы, называлі забойцам-псыхапатам, кубінскім агентам, засланым двайніком КДБ, а таксама нявіннай ахвярай мафіі, амэрыканскіх спэцслужбаў, правых і левых радыкалаў, сакрэтных біялягічных экспэрымэнтаў, правадніком акультнай усясьветнай змовы.

Дата, калі ён націснуў на спускавы гачок, стала сакральнай у амэрыканскім жыцьці на паўстагодзьдзя: а дзе ты быў, калі забілі Кенэдзі, а што ты рабіла ў той дзень?..

У Савецкім Саюзе яшчэ доўга пра яго амаль ніхто ня будзе ведаць, хоць амаль кожны яго менскі дзень ад 7 студзеня 1960 году да 22 траўня 1962-га, кожны ліст і размова таксама былі прадметам пільнай увагі.

**Рапарт вонкавага назіраньня КДБ**
**10.01.60**
**08:00-24:00**



**У 11:00 Лі Гарві выйшаў з гатэлю «Менск» і пайшоў у ГУМ. Там зайшоў у аддзел электратавараў, нешта спытаўся ў прадаўца, дастаў з кішэні грошы і пайшоў да касы. Ні за што не заплаціў, паклаў грошы назад у кішэню і пачаў хадзіць па першым паверсе ўнівэрмагу туды і назад і разглядаць розныя тавары. Затым вярнуўся ў аддзел электратавараў, заплаціў 2 рублі 25 капеек за электравілку, паклаў яе ў кішэню і падняўся на другі паверх. Там правёў некаторы час у аддзеле гатовага адзеньня, перагледзеў наяўныя касьцюмы, затым хутка пакінуў ГУМ. Вярнуўся ў гатэль у 11:25.**

**У 12:45 выйшаў са свайго пакою і пайшоў у рэстаран. Сеў за вольны столік і пачаў есьці.** *(Назіраньне падчас яды не вялося, бо больш людзей там не было.)*

**У 13:35 Лі Гарві выйшаў з рэстарану і вярнуўся ў свой пакой.**

**У 18:10 выйшаў з пакою і пайшоў у рэстаран. Сеў за вольны столік, пад'еў, выйшаў з рэстарану ў 18:45, на ліфце падняўся на чацьвёрты паверх і пайшоў у свой пакой.**

**Не выходзіў з пакою да 24:00, пасьля чаго назіраньне не вялося да раніцы.**

Назіральнік як бясстрасная камэра фіксуе нават, як аб'ект засоўвае рукі ў кішэні, і прыводзіць такія пераканаўчыя дэталі, як кошт электравілкі.

Але навошта яна амэрыканцу ў гатэлі? Каб сабраць дэтэктарны перадатчык і паслаць паведамленьне ў ЦРУ, бо амэрыканская пляскатая вілка не падыходзіць да беларускай разэткі з круглымі дзірачкамі?

Ад гатэлю да ГУМу — каля кілямэтра, туды і назад, плюс разьлік на касе, абыход першага паверху, потым другога — і на ўсё 25 хвілін, калі верыць КДБ?

І як гэта суадносіцца з запісам пра 10 студзеня ў дзёньніку самога Освальда:

**Цэлы дзень мой. Гуляю па горадзе. Вельмі прыгожа.**

Дзе тут праўда? Дзе насамрэч быў Освальд?

Архіўныя дакумэнты маюць уласныя стасункі з часам — як камяні ў рацэ, яны могуць паказваць то адзін бок, то другі, могуць зьнікаць безь сьлядоў і выходзіць на паверхню ў іншым кантэксьце, з новымі сэнсамі і акцэнтамі. Спрабаваць скарыстаць іх для храналягічнага аднаўленьня падзеяў — усё адно як пасьля цэлага дня паездак па горадзе назаўтра захацець аднавіць учорашні дзень і паспрабаваць праехаць заднім ходам па ўсім маршруце, гледзячы толькі ў люстэрка задняга віду. Напор новага трафіку, рамонты дарог і здарэньні робяць спробу безнадзейнай. Можна толькі зноў выехаць з выходнага пункту і паўтарыць маршрут, каб заўважыць ці высьветліць сёе-тое, што засталося па-за кадрам.

А яшчэ лепш пайсьці пешкі. Прагуляцца.

Гадзіньнікавыя стрэлкі паказалі 11:00, швэйцар адчыніў рэстаўраваныя дзьверы абноўленага гатэлю «Менск», я выйшаў на праспэкт Незалежнасьці, які ў час прыезду Освальда насіў імя Сталіна, а падчас яго адʼезду — ужо Леніна, паглядзеў на калёны самага прыгожага будынку ў горадзе — Менскага паштамту, павярнуў налева і пайшоў у ГУМ купляць электравілку.



## Першы сьмех

Нічога не пачынаецца тады, калі пачынаецца, і пакуль аўтар ідзе ў ГУМ, адгорнем старонкі ненапісанай першай часткі гэтай кнігі, безь якой яна была б немагчымая, як матылёк бяз кукалкі, вопрадзень бяз вусеня, вусень бязь яйка.

Освальд нарадзіўся 18 кастрычніка 1939 году ў Новым Арлеане (бацька памёр за два месяцы да яго нараджэньня) і меў двух старэйшых братоў. У 1955-м пасьля канфліктаў у школе кідае вучобу, далучаецца да сацыялістычнай лігі. Ідзе на вайсковую службу ў марскую пяхоту, атрымлівае спэцыяльнасьць апэратара авіяцыйнай электронікі (радары). Служыць у Японіі, на Тайване і Філіпінах. Здае тэст на прыцэльную стральбу ў катэгорыі снайпэр. Летам 1959-га дэмабілізуецца з базы ў Каліфорніі.

16 кастрычніка 1959 году ў пошуках сапраўднага марксізму празь Фінляндыю прыяжджае ў СССР зь пяцідзённай турыстычнай візай, пасяляецца ў маскоўскім гатэлі «Бэрлін» і заяўляе перакладчыцы Інтурысту, што ён — камуніст і хоча атрымаць

савецкае грамадзянства. Праз два дні ў яго дзень народзінаў, які ён прабавіў зь перакладчыцай і пакінуў запіс у дзёньніку:

**Мой 20-ты дзень народзінаў, ідзём на выставу раніцай, а пасьля абеду — у маўзалей Леніна-Сталіна. Яна ўручае мне падарунак — кнігу «Ідыёт» Дастаеўскага.**

21 кастрычніка Освальд атрымлівае паведамленьне, што ў грамадзянстве адмоўлена, віза сканчаецца, і ён мусіць пакінуць краіну да 20:00. За гадзіну да сканчэньня тэрміну ў ваньне рэжа вены на левай руцэ. «Хуткая» адвозіць у шпіталь. На наступны дзень ён робіць дзёньнікавы запіс:

**Я ў маленькай палаце. Са мной 12 хворых. Палата цёмная, сьняданак дрэнны. Пасьля працяглага двухгадзіннага назіраньня за іншымі хворымі я прыходжу да высновы, што я ў палаце для вар'ятаў, і гэта мяне вельмі бянтэжыць.**

Пасьля выпіскі праз тыдзень яго перавозяць у гатэль «Мэтраполь», у больш сьціплы нумар, пачынаюцца сустрэчы з прадстаўнікамі Інтурысту і АВІРу. У лісьце старэйшаму брату ён патлумачыць, чаму вырашыў застацца ў Савецкім Саюзе.

**ЛГО — Робэрту Освальду**
**26.11.59**

**Дарагі Робэрт,**
**Я задам табе пытаньне, Робэрт: дзеля чаго ты падтрымліваеш амэрыканскі ўрад? Які ідэал на першым пляне? Не кажы «свабода», бо свабода гэта слова, якое ўсе народы выкарыстоўвалі ўвесь час.**



**Спытай у мяне, і я адкажу, што змагаюся за камунізм. Гэтыя словы наводзяць цябе на думку пра рабоў ці несправядлівасьць — гэта з-за амэрыканскай прапаганды. Ты кажаш пра выгаду і перавагі. Ты думаеш, я тут дзеля гэтага? Дзеля асабістых, матэрыяльных выгадаў? Шчасьце —не асабістая рэч, яго не складаюць маленькі дом, магчымасьць усё браць і атрымліваць...**

**Тут добрыя, цёплыя, жывыя людзі. Яны хочуць, каб усе народы жылі ў міры, але адначасна яны б хацелі бачыць свабоднымі эканамічна заняволеных людзей Захаду. Яны вераць у свае ідэалы і стаяць за свой урад і краіну да канца.**

**Ты кажаш, што не выракаўся мяне, добра, я рады, але я скажу табе пра мае ўмовы. Я хачу, каб ты зразумеў, што я зараз скажу, і я не кажу гэта лёгка ці не падумаўшы, бо я, як ты ведаеш, служыў у войску і ведаю, што такое вайна.**

**1. Калі будзе вайна, я заб'ю кожнага амэрыканца, які надзене вайсковую форму дзеля абароны амэрыканскага ўраду — любога амэрыканца.**

**2. Унутрана я ня маю ніякага дачыненьня да ЗША.**

**3. Я хачу і буду мець нармальнае, шчасьлівае і мірнае жыцьцё тут, у Савецкім Саюзе да канца свайго жыцьця.**

**4. Мая маці й ты не зьяўляецеся аб'ектамі маёй любові, а толькі прыкладамі рабочых у ЗША.**

**Не спрабуй узгадаць, якім я быў, бо толькі цяпер я паказваю табе, які я. Я ня маю горычы ці нянавісьці, я прыехаў сюды, толькі каб знайсьці свабоду. Кажу праўду, я адчуваю, што нарэшце я са сваім народам.**

**У Маскве цяпер ідзе сьнег і ўсё выглядае вельмі прыгожа. Я магу бачыць Крэмль і Красную плошчу, і я толькі што павячэраў mjaso i kartofel, мясам і бульбай. Бачыш, расейцы ня так ужо й адрозьніваюцца ад цябе і мяне.**

**Лі.**

У лісьце Освальд вылучае некалькі словаў, адно зь іх — заб'ю ***кожнага*** амэрыканца. Кожны — гэта й брат. І ня толькі.

У апошні дзень году Освальд бярэ таксі, едзе ў амэрыканскую амбасаду, заяўляе пра адмову ад грамадзянства і здае пашпарт консулу Рычарду Снайдэру.*

У наступныя дні Освальд дае некалькі інтэрвію амэрыканскім журналістам, але потым адмаўляецца ад кантактаў, сядзіць адзін у нумары, вучыць расейскую мову і чакае рашэньня.

4 студзеня 1960 году яго выклікаюць у АВІР, выдаюць дакумэнт для асобаў без грамадзянства. Супрацоўнік паведамляе, што месцам жыхарства вызначаны Менск.

*Незадоўга перад тым Снайдэру давялося мець справу з падобным выпадкам: адразу пасьля службы ў войску амэрыканец Пэтрулі прыехаў у Маскву як турыст, зьявіўся ў амбасадзе, каб здаць пашпарт, і заявіў, што адмаўляецца ад грамадзянства і застаецца ў СССР. Празь некалькі тыдняў назіраньняў савецкія ўлады запатрабавалі, каб амбасада вярнула яго ў ЗША: Пэтрулі быў псыхічна хворы.



Освальд запісвае ў дзёньніку:

**Я пытаюся: гэта ў Сібіры? Ён сьмяецца.**

Гэты першы сьмех у гісторыі Освальда можна лічыць пачаткам гэтай гісторыі.*

*Амэрыканцы жылі і працавалі ў Менску і да Освальда. У 1922-23 гадах тут дзейнічаў офіс Амэрыканскай адміністрацыі дапамогі (АРА), дзе шэсьць амэрыканцаў займаліся аказаньнем гуманітарнай дапамогі (гл. маю кнігу «Прыгоды АРА ў Беларусі», 2005). У 1946-47 гадах пятнаццаць амэрыканцаў працавалі ў місіі ЮНРРА, якая таксама займалася дапамогай. Амэрыканцы жылі ў сядзібе ў менскім прадмесьці Лошыца, Освальд мог бачыць помнік на Вайсковых могілках, дзе пахаваная адна супрацоўніца ЮНРРА Рут Ўолер. (Гл. фільм «Забытая місія» на сайце Амбасады ЗША ў Менску).



## Пакараньне Менскам

Сталіца савецкай Беларусі не ўваходзіла ў сьпіс гарадоў, якія трымаў у памяці звычайны амэрыканец. Апроч Масквы і Ленінграду, ён ведаў Кіеў, Сталінград, магчыма, адрасы лэнд-лізу — вайсковыя парты Мурманск і Ўладзівасток.

Праз чатыры гады пытаньне пра Менск прагучала ў Вашынгтоне на пасяджэньні Прэзыдэнцкай Камісіі, якая расьсьледавала забойства Кенэдзі («Камісія Ўорэна»).*

*Камісія ў справе забойства Кенэдзі была створаная распараджэньнем прэзыдэнта ЗША Ліндана Джонсана 29 лістапада 1963 году. Яе складалі 34 чалавекі, а ўзначальваў старшыня Вярхоўнага суду ЗША Эрл Ўорэн. Пасьля году расьсьледаваньня Камісія выпусьціла справаздачу, у якой зрабіла выснову, што Лі Гарві Освальд забіў прэзыдэнта адзін і без пабочнай дапамогі. Тэкст справаздачы склаў 888 старонак, апублікаваныя матэрыялы склалі 26 тамоў, а дадатковыя дакумэнты, мэмарандумы і стэнаграмы пасяджэньняў налічваюць больш за 50 тысяч старонак. Усе дакумэнты (за выняткам мінімальнай інфармацыі пра падаткі прыватных асобаў) цяпер адкрытыя для дасьледнікаў і ў большасьці даступныя ў Інтэрнэце.



Пытаньне было адрасаванае дыплямату амэрыканскай амбасады ў Маскве Рычарду Снайдэру, які займаўся дакумэнтамі Освальда:

**Кангрэсмэн Форд: Калі б вы тады ведалі, што Освальд будзе ў Менску, што б вы сказалі?**

**Снайдэр: Так яму і трэба.**

**Кангрэсмэн Форд: Чаму вы так кажаце?**

**Снайдэр: Вы ніколі не былі ў Менску. Гарады ў правінцыі ў Савецкім Саюзе знаходзяцца на вялікую прыступку ніжэй за сталіцу, а сталіца, паверце мне, на даволі вялікую прыступку ніжэй за любы амэрыканскі населены пункт. Адрозьненьне паміж буйнымі гарадамі і малымі і паміж малымі і вёскамі — гэта велізарны крок назад у часе. Жыць у Менску ці любым іншым правінцыйным горадзе ў Савецкім Саюзе — даволі змрочны досьвед для любога, хто жыў у нашым грамадзтве.**

**Кангрэсмэн Форд: Вы калі-небудзь былі ў Менску?**

**Снайдэр: Я правёў каля гадзіны ў Менску, гуляў паміж цягнікамі, аднойчы.**

Кангрэсмэна, які пытаўся пра Менск, звалі Джэральд — праз дзесяць гадоў ён стане 38-м прэзыдэнтам ЗША, у гэтай якасьці паставіць свой подпіс пад Хэльсынскімі пагадненьнямі, якія дадуць юрыдычны аргумэнт («выконвайце сваю Канстытуцыю і законы!») савецкаму і постсавецкаму дысыдэнцкаму руху (у Менску таксама зьявіцца свой «Хэльсынскі камітэт»).

Форд у Менску ніколі ня быў. А вось яго папярэднік у Белым доме сталіцу Беларусі адведаў. Рычард Ніксан з жонкай былі ў Менску на пачатку ліпеня

1974-га, калі тут адзначалі 30-я ўгодкі вызваленьня Беларусі ад нямецкай акупацыі.

Яны прыляцелі з Крыму, дзе сустракаліся з генэральным сакратаром ЦК КПСС Брэжневым, на два дні. Прысутнічалі на парадзе, усклалі кветкі да помнікаў, іх завезьлі ў мэмарыяльны комплекс Хатынь. Заходні друк пісаў тады пра Хатынь як сьвядомую падмену Катыні, дзе НКВД расстраляла тысячы польскіх афіцэраў.

Ніксан заўважна кульгаў — у яго абвастрыўся тромбафлебіт на левай назе, у Вашынгтоне даходзіў да кульмінацыі Ўотэргейцкі скандал, да ганебнай адстаўкі заставалася шэсьць тыдняў...

Ніксан быў на плошчы Перамогі, куды штодня хадзіў Освальд, але наўрад ці яму паказвалі будынак па суседзтве, дзе жыў забойца яго колішняга суперніка на выбарах.

У 1960-м, калі выбаршчык Освальд жыў у Менску і не галасаваў, Ніксан прайграў прэзыдэнцкія выбары Джону Кенэдзі — усяго 0,1% галасоў. Калі б выйграў — у Освальда магла б быць іншая мішэнь.

Марына Освальд пазьней раскажа сьледчым, што муж сапраўды зьбіраўся пры выпадку забіць Ніксана. Такі выпадак надарыўся ў 1963-м, калі Ніксан меўся прыехаць у Далас. Освальд падрыхтаваў зброю і на пытаньне ўстрывожанай Марыны адказаў, што будзе дзейнічаць па абставінах. Яна ведала, што ён не жартуе, бо раней ужо спрабаваў забіць генэрала Ўолкера, аднаго зь лідэраў амэрыканскіх правых, абстраляў яго дом. Паліцыя вяла сьледзтва, але нікога не знайшла. У дзень прыезду Ніксана Марыне ўдалося са скандалам адгаварыць Освальда.



Менск стаў апошнім горадам за мяжой, які наведаў Ніксан-прэзыдэнт. На ўрачыстым абедзе падчас абмену тостамі Ніксан пажартаваў, што Брэжнеў паслаў яго ў Менск з-за таго, што там жыве гімнастка Вольга Корбут, алімпійская чэмпіёнка.

А мог і пра Освальда пажартаваць.

Скандал быў бы — ня меншы за Ўотэргейт.*

---

*Астролягі, канечне, заўважаць, што апошнія паўстагодзьдзя Менск спэцыфічна зьвязаны зь Белым домам: спачатку забойства Кенэдзі, потым Джонсан, які, дзякуючы гэтаму, стаў прэзыдэнтам, адмаўляецца ісьці на другі тэрмін, затым Ніксан пасьля візыту ў Менск ідзе ў адстаўку, Клінтан адведвае Менск і атрымлівае імпічмэнт. У менскай паездцы Ніксана суправаджаў памочнік Пэт Бюкэнан, які потым сам тройчы спрабаваў стаць прэзыдэнтам ЗША — і ўвесь час марна. Страшнае слова просіцца з кампутара на старонку — карма.



## Дзёньнік гістарычнага чалавека

Існуе мноства прычынаў і мэтаў, чаму людзі запісваюць падзеі жыцьця і свае ўражаньні ў дзёньніку, але найбольш дакладны адказ дае часьцей за ўсё сам тэкст.

Пасьля арышту Освальда паліцыя правяла ператрус яго рэчаў і знайшла запісы пад загалоўкам «Гістарычны дзёньнік».*

Уся гістарычная гісторыя зьмясьцілася на дванаццаці старонках, якія ахопліваюць падзеі ад прыезду ў Маскву ў кастрычніку 1959-га і да сакавіка 1962-га. Апошнія тры месяцы перад ад'ездам у Амэрыку запісы не рабіліся — але большасьць

---

*Арыгінал далучаны да матэрыялаў Камісіі Ўорэна. Першая публікацыя ў СССР адбылася ў 1990-м у часопісе «Крыніца/Родник» накладам 400 тысяч асобнікаў — я рыхтаваў яе паводле публікацыі «Поўны расейскі дзёньнік Освальда» ў часопісе «Life» за 1964 год. У той амэрыканскай публікацыі і, адпаведна, у маім перакладзе зь меркаваньняў бясьпекі былі зьмененыя імёны людзей, зь якімі Освальд сустракаўся ў СССР. У гэтым беларускім тэксьце — новы поўны пераклад з арыгіналу. Памылкі правапісу не перадаваліся.



старонак запоўненая і прысьвечаная падзеям, якія адбываюцца ў Менску.

**Дзёньнік ЛГО**
**7 студзеня 1960**

**Выяжджаю цягнікам з Масквы ў Менск, Беларусь.**

Але потым ізноў:

**7 студзеня 1960**

**Прыяжджаю ў Менск.**

За адзін дзень? Цягнікам?..

Дзёньнік выклікае масу падобных пытаньняў — ён стракаціць граматычнымі памылкамі, непасьлядоўны, зь вялікімі прабеламі, пазьнейшымі дадаткамі, часам выглядае, быццам напісаны задняй датай, за адзін прысест. Ці сапраўды гэта дзёньнік?

Адказ дае сам тэкст — гэта такі дзёньнік. Запісы арганізаваныя храналягічна, але рабіліся нерытмічна, часам запозьнена, зь вялікімі пропускамі. Ня клясыка жанру. І правапіс мадэрнісцкі — перастаўленыя літары, пропускі, перайначаныя імёны.

У Освальда была дысьлексія — ён ня мог граматычна правільна пісаць. Але на праўдзівасьць напісанага дысьлексія не ўплывае. Як і час, калі запісы робяцца.

І памылкі, калі яны сустракаюцца — усяго толькі памылкі, а не падробка ці фальшаваньне.

4 студзеня Освальда выклікалі ў Маскоўскі АВІР і выдалі гадавы дазвол на жыхарства, назаўтра ён атрымаў грошы ад Чырвонага Крыжа і празь дзень увечары з рэчамі выправіўся на Беларускі вакзал.

**Дзёньнік ЛГО**
**7 студзеня 1960**

**Выяжджаю цягніком з Масквы ў Менск, Беларусь. Рахунак за гатэль быў на 2200 рублёў, квіток да Менску — 150 рублёў, такім чынам, у мяне шмат грошай і надзеі. Я напісаў брату і маці лісты, дзе сказаў, што ніколі больш з вамі не жадаю кантактаваць. Я пачынаю новае жыцьцё і не хачу нічога са старога.**

Насамрэч ён выехаў на дзень раней, 6 студзеня. Дата ў дзёньніку пазначаная памылкова.

Маці і брат заставаліся ў мінулым, з сабой меліся грошы і надзея, наперадзе быў Менск.

Пад стук колаў на паліцы ў начным цягніку сьпіць пасажыр, тым часам спраўджваецца ягоная мара: з замежнага турыста і асобы бяз пашпарту ён ператвараецца ў новага чалавека — жыхара сталіцы адной з правінцыяў камуністычнай імпэрыі і члена савецкае рабочае клясы, самае перадавое, як пісалі тады газэты, клясы сучаснасьці, якой належыць будучыня.

Ён пачынае новае жыцьцё і нічога ня хоча са старога.

Так, забыўшыся пра сваё існаваньне ў якасьці яйка, вусеня і вопрадня, калі б думаў, мог лічыць матылёк.



## Шоў-шоў і прыйшоў

Освальда чакалі.

**Дзёньнік ЛГО**
**7 студзеня 1960**

**Прыяжджаю ў Менск, сустракаюць дзьве жанчыны з Чырвонага Крыжа, ідзем у гатэль «Менск», бяру нумар, знаёмлюся з Розай і Стэлінай, супрацоўніцамі Інтурысту ў гатэлі, якія гавораць па-ангельску. Стэліне за 40, прыгожая, замужам, мае малое дзіця, Розе каля 23, бляндынка, сымпатычная, ня замужам, выдатная ангельская, мы адразу ўпадабалі адно аднаго.**

**8 студзеня 1960**

**Сустракаюся з мэрам гораду таварышам Шарапавым, які вітае мяне і абяцае «неўзабаве» знайсьці для мяне бясплатную кватэру, папярэджвае пра «некультурных людзей», якія часам абражаюць замежнікаў.**

Паход у гарсавет і сустрэча са старшынём былі арганізаваныя яшчэ ў Маскве, і падрыхтаваны там сцэнар для Освальда ў Менску ўвасабляўся без адхіленьняў.

**Рапарт вонкавага назіраньня КДБ**
**09.01.60**
**08:00-23:00**

**У 10 гадзін Лі Гарві ўвайшоў у фае гатэлю «Менск», падышоў да адміністратара і пачаў размаўляць зь ім пра нешта. Пасьля падняўся ў фае 4-га паверху, сеў і ўступіў у размову зь перакладчыцай Таняй, да якой далучылася яшчэ адна работніца гатэлю.**

**Пасьля размовы, якая доўжылася каля 40 хвілін, Лі Гарві вярнуўся ў свой пакой 453.**

**У 11:40 Лі Гарві выйшаў з гатэлю і хутка пайшоў уніз па вуліцы Сьвярдлова да мясной крамы. Усярэдзіне ён абышоў прылаўкі, коратка агледзеў выстаўленыя прадукты, пасьля чаго выйшаў і накіраваўся па вуліцы Кірава на скрыжаваньне да вакзалу, спыніўся, агледзеў вітрыну тэхнічнага аддзелу Беларускай чыгункі, затым падышоў да рэстарану «Радуга», пастаяў там, пасьля пайшоў у гастраном на вуліцы Кірава. На ўваходзе ён разглядаў людзей, якія ўваходзілі за ім. Прайшоў па краме, выйшаў, нічога не купіўшы, і напрасткі пайшоў у кнігарню, дзе прайшоў праз усе сэкцыі не спыняючыся, затым выйшаў і хутка пайшоў. Вярнуўся ў гатэль у 12:25.**

**16:40 Лі Гарві выйшаў з пакою і спусьціўся ў рэстаран «Менск». Сеў за вольны столік і стаў чакаць афіцыянтку.** *(Назіраньне ў рэстаране не вялося, бо было замала людзей.)*



**Выйшаў з рэстарану праз 45 хвілін і падняўся ў свой пакой. Не выходзіў з пакою да 11:00 вечара, і назіраньне прыпынена да наступнай раніцы.**

Пайшоў, увайшоў, абышоў, прайшоў, выйшаў, пайшоў — гэты прымітыўны, як апісаньне рухаў казуркі, тэкст цытуецца тут ня зь першакрыніцы.



## Дэпутат ідзе ў КДБ

Першакрыніцамі за савецкім часам называлі працы клясыкаў марксізму-ленінізму (фактычна замест дуэту было трыё ці нават квартэт, але Энгельс на свой «ізм» не дацягнуў, а Сталін на пачатку 60-х з канцэртнай брыгады ўжо выпаў). Першакрыніцай менскага пэрыяду Освальда зьяўляецца, канечне, справа агентурнай распрацоўкі КДБ — гэты орган дыктатуры вёў свой летапіс жыцьця, часам кастраваны, нярэдка ў стылі фэнтэзі, але па-канцылярску падрабязны.

Освальдам у Менску я пачаў цікавіцца яшчэ за часамі СССР, але ніколі, нягледзячы на статус сябра камісіі Вярхоўнага Савету па правах ахвяраў палітрэпрэсіяў, нават ня бачыў яго архіўную справу, і калі б асабіста ня ведаў аднаго чалавека, які трымаў яе ў руках, мог бы падумаць — а ці ёсьць яна ўвогуле?

Чалавек, які ня толькі бачыў, але гартаў справу Освальда — дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня Сяргей Навумчык.



Неяк у 1992-м да мяне ў Менск пазванілі амэрыканскія тэлежурналісты, якія зьбіраліся здымаць дакумэнтальны фільм пра Освальда — набліжалася 30-я гадавіна забойства Кенэдзі, ім трэба была дапамога са здымкамі на заводзе, з архіўнай справай КДБ. Я пераадрасаваў просьбу Сяргею Навумчыку — ён быў ня толькі ўплывовым каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі, але і сакратаром камісіі па справах сродкаў масавай інфармацыі, галоснасьці і правоў чалавека.

І яшчэ ён быў журналістам — таму ахвотна ўзяўся дапамагчы і зацікавіўся справай сам. Ён успамінае:*

**У 1992 годзе я атрымаў просьбу амэрыканскіх журналістаў паспрыяць доступу да справы Освальда ў беларускім КДБ. Я напісаў ліст старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіславу Шушкевічу з просьбай даць доступ да «справы Освальда» і мне. Я разумеў, што калі Шушкевіч дасьць прамое ўказаньне кіраўніцтву КДБ, у мяне будуць рэальныя шанцы атрымаць доступ. Праз некалькі дзён памочнік старшыні ВС паказаў мне рэзалюцыю на маім звароце: «Э.Шыркоўскаму — С.Шушкевіч». І — усё. Маўляў, хай старшыня КДБ вырашае.**

У той час КДБ напрасткі падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету і яго старшыні — іншага начальства над камітэтам у незалежнай Беларусі не было. Апроч таго, паводле заканадаўства, дэпутаты мелі

*Спэцыяльна для гэтай кнігі Сяргей Навумчык аднавіў хаду падзеяў — у яго захавалася шмат сваіх нататак таго часу, дакумэнтаў, аўдыёзапісаў.

доступ ва ўсе дзяржаўныя органы і да ўсіх дакумэнтаў. Ведамасныя інструкцыі КДБ абмяжоўвалі кола асобаў, дапушчаных да сакрэтаў. Але закон мусіў быць вышэйшы.

Ня ўсё было так проста, канечне. У перапынку сэсіі Вярхоўнага Савету да Навумчыка падышоў таксама дэпутат, намесьнік старшыні КДБ генэрал Генадзь Лавіцкі і агарошыў навіной: вось ты, Сяргей, пішаш просьбы да Шушкевіча, а ў Менску поўным ходам працуе амэрыканскі пісьменьнік Мэйлер, прыходзіць у клюб Дзяржынскага і яму даюць дакумэнты са справы Освальда, водзяць да яго менскіх знаёмцаў Освальда.

Дэпутат навіну ўспрыняў спакойна, бо лічыў, што хто-хто, а амэрыканцы маюць маральнае права атрымаць інфармацыю пра таго, хто прызнаны забойцам іх прэзыдэнта. Але ён таксама лічыў, што і беларускія дасьледнікі мелі права атрымаць такую інфармацыю:

**Пасьля «ніякай» рэзалюцыі Шушкевіча заставалася чакаць рашэньня генэрал-палкоўніка Шыркоўскага, апошняга кіраўніка КДБ у БССР і першага старшыні гэтай установы ў незалежнай Беларусі.**

**Даць пэўную (зразумела, ня ўсю) інфармацыю са справы Освальда беларускаму дасьледніку, ды яшчэ з дэмакратычным іміджам, ды яшчэ таму, хто, як бы там ні было, паводле заканадаўства мае на гэта права, — значыла зьняць магчымыя папрокі ў бок КДБ за гісторыю з Мэйлерам. Ну і, магчыма, не апошнюю ролю адыгрываў мой статус каардынатара парлямэнцкай апазыцыі БНФ — праца такога дэпутата ў архіве КДБ найлепшым чынам сьведчыла пра ступень дэмакратызацыі «органаў» (і рабіла праблематычнай крытыку дэпутата ў бок КДБ хаця б на час гэтай працы).**

**У выніку Шыркоўскі станоўча паставіўся да маёй просьбы, і недзе ўвесну 1993-га ў кабінэце начальніка архіўнага ўпраўленьня Аляксандра Вераса мне паказалі тое, што называецца «Справай Освальда».**



Тут важна адзначыць — да Сяргея Навумчыка ніхто з цывільных дасьледнікаў, айчынных ці замежных, ніколі не трымаў у руках і не гартаў «Справу агентурнай распрацоўкі № 34451».

Гэта — першае поўнае яе апісаньне:

**На калясцы (падобнай да тых, што выкарыстоўваюць у аэрапортах ці супэрмаркетах), прывезьлі пульхныя тамы і паклалі іх на стол.**

**Тамоў было сем. Апошні, сёмы, цалкам складаўся зь ліставаньня наконт выдачы матэрыялаў справы дасьледнікам, а самым апошнім падшытым дакумэнтам быў мой ліст да Шушкевіча на дэпутацкім блянку зь ягонай рэзалюцыяй. Быў том, які пачынаўся выцінкай з газэты (здаецца, «Известия») з партрэтам Кенэдзі ў жалобнай рамцы; былі й выцінкі зь іншых газэтаў. Мне паказалі запыт па ўрадавай сувязі (ВЧ) у КДБ БССР пра Освальда, зроблены адразу пасьля забойства Кенэдзі і адказ-даведку, ізноў жа па ВЧ, старшыні КДБ Пятрова. І там жа — машынапіс артыкулу за подпісам АПН («Дык што ж рабіў Освальд у Савецкім Саюзе?») з праўкамі ад рукі.**

**Асобны том складалі матэрыялы, зьвязаныя з**

**выездам Освальда і Марыны Прусаковай з СССР — ліставаньне з АВІРам, нейкія даведкі.**

**Яшчэ адзін том утрымліваў матэрыялы, вынятыя з розных савецкіх (пераважна, менскіх) установаў, якія мелі дачыненьне да Освальда — так, я заўважыў ягоную мэдычную картку.**

**Але, канечне, найбольш цікавымі былі тамы «апэратыўнай распрацоўкі» Освальда — данясеньні прыстаўленых да яго агентаў (памятаю фразу «и быстрым шагом пошёл»), стэнаграмы размоваў — і ня толькі тэлефонных (імгненнага позірку на нейкі тэкст хапіла, каб зразумець, што кватэра Освальда ў Менску праслухоўвалася. Я заўважыў расшыфраваную ў форме дыялёгу «Ён-Яна-Ён-Яна» размову).**

**На некаторых аркушах у машынапісным тэксьце былі прочыркі, у якія былі ўпісаныя словы чарнільнай ручкай.**

**Былі нават тэксты нататак, вынятых са сьметніцы.**

**Асобны том складаўся з капэртаў, у якіх былі магнітафонныя стужкі і фотанэгатывы (35-мілімэтроўкі, нарэзаныя па 4-5 кадраў). Так, у адной капэрце ляжалі нэгатывы зь вясельля Освальда — як мне патлумачылі, зробленыя схаванай камэрай. Магнітафонныя стужкі былі пераважна без бабінаў.**

**Былі і лісты — Освальду і ад Освальда, зь Менску і з Амэрыкі. Я заўважыў капэрту, зь якой была адарваная «зь мясам» паштовая марка — трэба думаць, нехта з тагачасных супрацоўнікаў КДБ захапляўся філятэліяй, адарваў амэрыканскую марачку ў калекцыю.**



Філятэлістычныя жарсьці аказаліся больш моцнымі за дзяржаўную бясьпеку. Ну, а калі б там былі мікракропкі ці які спэцыяльны код, як часам паказваюць у кіно? Куды толькі ўся хвалёная пільнасьць падзелася.

Аказалася — нікуды не падзелася.



## Дэпутат ідзе з КДБ

Далей усё выглядала як у казцы пра сароку, якая кашку варыла, на прыпечку студзіла, чарпаком мяшала, дзеткам давала:

Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
А гэтаму не дала.

Сяргей Навумчык заўважыў, што некаторыя прозьвішчы ў рапартах былі заклееныя палоскамі паперы.

**— Гэта так рыхтавалі дакумэнты для Мэйлера? — запытаўся я ў Вераса.**

**— Што Вы, Мэйлеру ніводнага дакумэнта адсюль не патрапіла — адказаў палкоўнік. — Сяргей Іосіфавіч, увогуле вы першы, хто трымае ў руках гэтыя папкі. Калі не лічыць нашых супрацоўнікаў, зразумела.**

Дэпутату патлумачылі, што дзьве акалічнасьці



перашкаджаюць даць гэтыя тамы ў поўнае распараджэньне: прозьвішчы тайных агентаў і мэтады апэратыўнай працы.

**— Я табе скажу па-простаму — тлумачыў мне Лавіцкі ў сваім кабінэце пад партрэтам Дзяржынскага. — Пачынаючы з утварэньня «органаў», з 1917-га, мы ніколі не раскрылі ніводнага імя ніводнага агента. Гэта гарантыя нашай працы. Бо калі б раскрылі — як бы мы сёньня прыцягвалі новых агентаў?**

Яшчэ адна прычына — матэрыялы пра амэрыканскую амбасаду ў Маскве, дзе, са словаў супрацоўнікаў КДБ, у іх былі інфарматары. Сяргей Навумчык ізноў пайшоў да Шыркоўскага. Гутарка адбылася на пачатку траўня 1993 году ў кабінэце старшыні на трэцім паверсе будынку КДБ:

**Шыркоўскі пазваніў Верасу: «Тут у мяне дэпутат Навумчык. Дык Вы яму ўсё паказалі? Так, ён мне сказаў, што ты паказаў, і падзякаваў. Але разумееш, там вялікая праца. Давай-ка ты вось што. Трэба ўключацца ў справы. Ну што гэта, амэрыканцы там прыяжджаюць, пішуць. Што, у нас няма нармальных журналістаў наогул? Ёсьць пытаньні, давай паглядзім, і будзем шукаць. Па Касьцюкову. Што ты яго знайсьці ня можаш? Шукай. Ты прабачэньне перадай, што я тады іх усіх шугануў, калі амэрыканец прыяжджаў. А то, ведаеш, прыехаў амэрыканец, пасадзілі яго ў гэтым клюбе Дзяржынскага, вадзілі ўсіх туды».**

З апошніх словаў Сяргей Навумчык зрабіў выснову, што Норману Мэйлеру спрыялі (прынамсі, да пэўнага часу) бяз згоды старшыні КДБ і што

старшыня гэтую дапамогу не вітаў. Ці магчыма такое ў ваенізаванай арганізацыі, ці генэрал «ваньку валял», ці былі сапраўды супярэчнасьці паміж начальнікамі — ня так істотна.*

Істотна, што Шыркоўскі паабяцаў спрыяць, назваў прозьвішча апэратыўніка, які займаўся Освальдам — Касьцюкоў, загадаў прыцягнуць яго на дапамогу дэпутату.

**— У нас яшчэ шмат недалёкіх людзей у апараце, — сказаў Шыркоўскі на разьвітаньне. — Табе яшчэ давядзецца зьвярнуцца да мяне ў гэтай справе. І, павер мне, не адзін раз.**

Як у ваду глядзеў. Ці ў люстэрка.**

Наступныя некалькі месяцаў былі падобныя да перамоваў па ядзерным раззбраеньні, якія вядуцца з Паўночнай Карэяй.

**Спачатку мне сказалі, што дадуць усё — за выняткам гэтых самых прозьвішчаў. «Гэтаму Мэйлеру нагаварылі 40 працэнтаў хлусьні, а ў Вас будуць праўдзівыя факты», — паабяцаў мне Верас. Потым — што патрэбна прапусьціць кожны дакумэнт праз адмысловую ведамасную камісію па рассакрэчваньні, у якой, сярод іншых, былі і**

*Пазыцыя генэрала мянялася — і набыла сваё завяршэньне ў раздражнёным афарызьме на старонках друку ўлетку таго самага году: «КДБ — ня хата-чытальня».

**У 1992 годзе Э.Шыркоўскі заявіў, што яму прапаноўвалі 50 мільёнаў даляраў за «справу Освальда»(«Известия», 6 жніўня 1992). Для параўнаньня — нататнік Джона Кенэдзі 1960 году з накідамі прамоваў прадаецца за 20 000 даляраў. У сьнежні 2010-га на аўкцыён была выстаўленая сасновая труна Освальда (пасьля эксгумацыі парэшткі перапахавалі ў іншай труне), якую купілі за 87 469 даляраў. На думку амэрыканскіх дыпляматаў і выдаўцоў, лічба Шыркоўскага — галюцынацыя ці дэзынфармацыя.



**вэтэраны КДБ. Потым сказалі, што, паколькі там вэтэраны, дык цяжка апэратыўна ўсіх сабраць.**

Дэпутата, як і абяцалі, аднойчы зьвялі з палкоўнікам у адстаўцы Касьцюковым, які сказаў, што ў яго было дзьве мэты: высьветліць, ці не зьяўляецца Освальд агентам ЦРУ і ці нельга яго завэрбаваць у інтарэсах КДБ. На абодва пытаньні атрымалі адмоўныя адказы — Освальд, паводле свайго характару, не ўяўляў цікавасьці для спэцслужбаў.

Потым паўза працягвалася, бо адказны супрацоўнік КДБ трапіў у шпіталь.

**— Трагічная гісторыя, — патлумачыў мне Лавіцкі. — У палкоўніка быў летнік, ён туды ня езьдзіў — няма часу, гарыць чалавек на працы. Адказны афіцэр, прафэсійны чэкіст. А жонка пілуе й пілуе яго, што суседзі памідоры-гуркі садзяць, а ў нас адно пустазельле. Ну, адпрасіўся ён у мяне, узяў тры дні адпачынку за свой кошт. Паехаў на дачу. Тры дні капаў-араў, усё ўзараў, пасадзіў. Аказалася — ня свой участак узараў, а суседаў. Ён да суседа (таксама чэкіст), узары, кажа, цяпер ты мой участак, а сусед — «А я што, цябе прасіў мой араць?» Расхваляваўся, ціск падняўся, цяпер вось у шпіталі...**

Дачная драма настолькі прыгожая, што, ня выключана, нават сапраўдная.

Аднойчы ўзьнікла новая перашкода. Кіраўніцтва КДБ раптоўна занепакоілі юрыдычныя інтарэсы дэпутата — а ці не засудзіць беларускага грамадзяніна Марына Прусакова-Освальд-Портэр, калі ён абнародуе пэўныя эпізоды яе прыватнага жыцьця, падслуханыя і падгледжаныя органамі?

У нейкі момант Сяргею Навумчыку прапанавалі («каб не закапацца ў матэрыялах, бо адно капіяваньне на ксэраксе зойме некалькі тыдняў»), засяродзіцца на некалькіх тэматычных блёках — напрыклад, ці быў Освальд агентам КДБ? Магчыма, небеспадстаўна лічылі, што калі дэмакратычны дасьледнік заявіць, што не, ня быў — гэта будзе гучаць больш пераканаўча, чым іх уласныя заявы.

**— Але ж Вы разумееце, што, каб пісаць, што Освальд ня быў агентам, я павінен мець доказы. А доказы — гэта матэрыялы справы, — адказаў я.**
**— Ды паверце, што ня быў!**
**— Магу паверыць. Але чаму Вы думаеце, што іншыя мне павераць? Давайце матэрыялы!**

Далей ізноў — абяцаньні, часовыя праблемы, паважныя прычыны.

**Аднойчы я сказаў: «Паслухайце, ваша мэта — як мага больш схаваць, мая мэта — як мага больш у вас узяць. Як бачу, нічога ў нас не атрымаецца». — «Вы што, — запэўнівалі мяне, — мы ж разумеем, што рана ці позна трэба будзе рассакрэчваць, проста гэта трэба рабіць акуратна...»**

Дні складаліся ў тыдні, тыдні ў месяцы, і да сярэдзіны 1993-га ў Беларусі на вачах памянялася палітычная тэмпэратура. Пасьля разгрому рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах камуністычная намэнклятура абʼядналася вакол прэмʼера Вячаслава Кебіча, які пакаяўся за подпіс у Віскулях і ўзяў курс на інтэграцыю Беларусі і Расеі. КДБ ужо ня бачыў патрэбы гуляць у галоснасьць нават акуратна.

Паходы дэпутата скончыліся тым, што яму далі ксэракопіі (не на вынас, а перапісаць) некалькіх



дакумэнтаў пра адʼезд Освальдаў у ЗША, у тым ліку заяву ў АВІР зь візай міністра ўнутраных справаў Аляксандра Аксёнава.

І гэта, як ён успамінае, — усё:

**Напэўна, я ўжо ніколі не даведаюся, на што разьлічвалі кіраўнікі КДБ, калі абяцалі даць мне матэрыялы справы Освальда. Што дакладна — некалькі месяцаў майго часу было страчана на безвыніковыя размовы з чэкістамі.**

Сяргей Навумчык лічыць галоўнай прычынай адступленьня КДБ ад свайго першапачатковага абяцаньня зьмену агульнай палітычнай сытуацыі. Галоўнай — але не адзінай.

**Канечне, калі б у 1992-м Шушкевіч наклаў недвухсэнсоўную рэзалюцыю адкрыць справу Освальда, была вялікая верагоднасьць, што кіраўніцтвам КДБ яна была б выкананая.**

Сяргей Навумчык гаворыць усё ж хоць і пра вялікую, але — верагоднасьць.

Дала-не дала-дала...



## Сарокі над КДБ

Увесну 1992-га падчас сустрэчы зь першым амэрыканскім амбасадарам у Менску Дэйвідам Суорцам кіраўнік Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч зьдзівіў дыплямата аповедам пра сваё асабістае знаёмства з амэрыканцам, які жыў тут за трыццаць гадоў да беларускай незалежнасьці.

... Калі ў 1960-м нядаўняга асьпіранта Інстытуту фізыкі Акадэміі Навук БССР Станіслава Шушкевіча, які займаўся дасьледчай працай на Менскім радыёзаводзе, выклікалі ў заводзкі парткам, ён менш за ўсё гатовы быў да размовы пра граматыку расейскай мовы.

У парткаме маладому інжынэру паведамілі пра аказаны давер — вучыць скланеньням і спражэньням новага рабочага-амэрыканца. Шушкевіч вывучаў ангельскую ва ўнівэрсытэце, але яго адразу папярэдзілі — ніякіх размоваў пра мінулае жыцьцё з Освальдам ня весьці.

Освальд запісаў у нататнік імя настаўніка: Станіслаў Шушкевіч. Заняткі адбываліся ў корпусе,



дзе працаваў інжынэр, пасьля зьмены Освальд прыходзіў туды, падымаўся на другі паверх, і яны прыступалі да граматыкі.

Мова давалася цяжка. Освальд быў ня надта старанны вучань, не праяўляў вялікага зацікаўленьня, эмоцыяў, не ўсьміхаўся і ня дзякаваў пасьля заняткаў. Але праз пэўны час ён пачаў тое-сёе разумець, калі Шушкевіч гаварыў павольна, дапамагаў жэстамі, пісаў асобныя словы на паперцы і разгортваў слоўнік.*

Амбасадар Суорц неадкладна ўключыў аповед Шушкевіча ў тэлеграму ў Дзяржд эпартамэнт. З адміністрацыі прэзыдэнта Джорджа Буша-старэйшага адразу пайшлі запыты пра архіўную справу. Суорц папрасіў кіраўніцтва КДБ аб сустрэчы — яго прыязна прынялі, выслухалі і паабяцалі спрыяць.

Больш амбасадар да гэтай тэмы не вяртаўся — на парадку дня быў вывад ядзернай зброі зь Беларусі, пабудова ўсяго комплексу паўнавартасных дзяржаўных стасункаў з новай дзяржавай, падрыхтоўка першага візыту кіраўніка Беларусі ў Вашынгтон.

Праз трыццаць гадоў пасьля забойства Кенэдзі, летам 1993-га Шушкевіч сустракаўся з прэзыдэнтам Клінтанам у Белым доме.

Кенэдзі быў асабістым героем Клінтана, існуе фільм, дзе Кенэдзі цісьне яму руку. Пра сваё знаёмства з Освальдам падчас гутаркі ў Белым доме Шуш-

*У матэрыялах Камісіі Ўорэна можна пабачыць шэраг лістоў і запісаў у нататніку Освальда, зробленых па-расейску — на цалкам прымальным узроўні для штодзённых камунікацыйных патрэбаў. Па вяртаньні ў Амэрыку ён нават атрымаў прафэсійную рэкамэндацыю, што можа быць вусным і пісьмовым перакладчыкам з расейскай.

кевіч не згадаў ні тады, ні падчас прыезду Клінтана ў Беларусь.*

Чалавечы кантакт часам нечакана ўплывае на гісторыю — як, верагодна, і яго адсутнасьць. Але рэч была ня толькі ў асабістай гістарычнай настальгіі двух удзельнікаў сустрэчы ў Авальным кабінэце, дзе лунаў цень яго былога гаспадара. Якраз тады адміністрацыя Клінтана напрасткі займалася справай забойства Кенэдзі.

У 1992-м Кангрэс ЗША ўтварыў незалежную «Раду ў справе перагляду дакумэнтаў забойства», і адміністрацыя Клінтана, якая пераняла ўладу ад Джорджа Буша ў студзені 1993-га, мусіла арганізоўваць працу Рады.**

---

*У Беларусі Клінтан сустракаўся зь яшчэ адным чалавекам, які асабіста ведаў Освальда. Гэта перакладчыца амбасады ЗША Іна Маркава, якая пазнаёмілася з Освальдам, калі вучылася ў ін'язе. Яна перакладала размову лідэра парлямэнцкай апазыцыі Зянона Пазьняка і амэрыканскага прэзыдэнта ў Курапатах.

**Хаця забойства Кенэдзі дасьледавала прэзыдэнцкая Камісія Ўорэна ў 1963-64 гадах, затым адбываліся дадатковыя слуханьні ў Кангрэсе ў 1970-х, амэрыканская публіка працягвала задаваць пытаньні, што і чаму здарылася ў Даласе. Сакрэтнасьць, якая была неад'емнай рысай працы дзяржаўных інстытутаў падчас халоднай вайны, не спрыяла адкрыцьцю ўсіх архіваў.

Падазрэньні, выкліканыя сакрэтнасьцю, размывалі ўпэўненасьць у праўдзівасьці фэдэральных органаў улады і шкодзілі даверу да іх. Буялі канспіралягічныя тэорыі, розгалас атрымаў фільм Олівэра Стоўна «Джэй Эф Кэй» (прыняты ў Амэрыцы скарот ініцыялаў 35-га прэзыдэнта) з высновамі пра змову і ўдзел у ёй дзяржаўных структураў. У адказ на фільм выйшла кніга Дэйвіда Райцэза з красамоўнай назвай «100 памылак у фактах і высновах фільму «Джэй Эф Кэй».

У 1992-м Кангрэс прыняў «Акт аб зборы дакумэнтаў, датычных забойства прэзыдэнта Джона Ф. Кенэдзі», стварыў Раду і надзяліў яе адмысловымі паўнамоцтвамі. Менская тэлеграма Суорца і яго перамовы з кіраўніцтвам КДБ патрапілі ў поле новага расьсьледаваньня.



У верасьні 1998-га Біл Клінтан атрымаў справаздачу. Рада прымусіла рассакрэціць і апублікавала больш за дваццаць тысяч дакумэнтаў ФБР, больш за тры тысячы — ЦРУ, таксама больш за тры тысячы — Пэнтагону, тысячы справаздачаў, архіўных матэрыялаў іншых ведамстваў і папераў прыватных грамадзян — цалкам 33 176 дакумэнтаў. Агульны аб'ём «Калекцыі Кенэдзі», адкрытай для грамадзкасьці, перавысіў чатыры мільёны старонак.

У справаздачы быў разьдзел пад загалоўкам **«Беларусь»:**

**З дапамогай амбасады ЗША ў Менску старшыня Рады Тангайм, сябра Рады Гол і выканаўчы дырэктар Марвэл у лістападзе 1996 году перагледзелі абшырныя матэрыялы справы сачэньня за Освальдам беларускага КДБ. Справа апісвае больш за два гады абшырнага сачэньня і аналізу КДБ за Лі Гарві Освальдам падчас яго жыцьця ў беларускай сталіцы. Некаторыя з дакумэнтаў былі ўжытыя Норманам Мэйлерам у яго кнізе «Гісторыя Освальда».**

**Радзе не ўдалося атрымаць копію справы, часткова з прычыны пагаршэньня адносінаў паміж ЗША і Беларусьсю ў 1997-98 гады.**

**Ізноў, Рада настойліва рэкамэндуе прыкласьці ўсе магчымыя намаганьні, каб атрымаць для амэрыканскага народу гэтыя важныя дакумэнты пра дзейнасьць абвінавачанага забойцы Лі Гарві Освальда ў гады перад забойствам.**

Рада таксама наракала на слабое супрацоўніцтва з Масквой.

Аднак менш чым праз год, у чэрвені 1999-га падчас сустрэчы «вялікай васьмёркі» ў Кёльне

прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын зрабіў жэст, які міжнародныя экспэрты тады назвалі «дыпляматыяй дакумэнтаў» — перадаў Білу Клінтану 39 тэчак «справы Освальда». Гэта былі дакумэнты не КДБ, а ЦК КПСС, МЗС і МУС СССР, якія зьявіліся на сьвет адразу пасьля забойства. У Маскве тады, пасьля Карыбскага крызісу, вельмі баяліся абвінавачаньня ў падрыхтоўцы замаху, і гэтаму было прысьвечанае ліхаманкавае ліставаньне з савецкай амбасадай у Вашынгтоне, даведкі і тлумачэньні.

Менскі пэрыяд Освальда там толькі згадваецца, але не раскрываецца — матэрыялы менскага КДБ ніяк не фігуруюць.

Тады ж, улетку 1999-га ельцынскую перадачу дакумэнтаў пракамэнтаваў яшчэ адзін прэзыдэнт — Аляксандар Лукашэнка. На полі ў Берасьцейскай вобласьці ён заявіў журналістам:

**— Паглядзеў я гэтыя справы — няма там нічога такога, каб ірваць на галаве апошнія валасы і плакацца.**

І патлумачыў:

**— Мы не зьбіраемся пляваць на сваю гісторыю.**

Менскія сарокі-вароны, якія лётаюць над КДБ, сьпяваюць па-свойму:
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
Гэтаму не дала,
А гэтаму дала.
У такой прыкладна прапорцыі. Тым больш цікава — каму і як давала.



## Удар па амбіцыях

У 1995-м, калі Станіслаў Шушкевіч ужо ня быў старшынём Вярхоўнага Савету, а Эдуард Шыркоўскі — старшынём КДБ, калі ўведзенае ў парлямэнт войска зьбіла дэпутатаў апазыцыі, якія абаранялі нацыянальны сьцяг і герб, калі першы прэзыдэнт заявіў, што ўсім лепшым у сваім жыцьці ён абавязаны КДБ, у Амэрыцы выйшла кніга Нормана Мэйлера «Гісторыя Освальда».

На супэрвокладцы выдавецтва Random House пісала:

**У 1993-м Норман Мэйлер правёў шэсьць месяцаў у Расеі, дзе ён браў інтэрвію ў былых сяброў і каханак Освальда, атрымаў эксклюзіўныя інтэрвію з афіцэрамі КДБ, прыстаўленымі адсочваць кожны рух Освальда. Яму таксама далі эксклюзіўны доступ да матэрыялаў справы Освальда ў КДБ, у тым ліку да транскрыптаў падслуханых размоваў у кватэры, дзе Лі жыў са сваёй расейскай жонкай Марынай.**

На гэты ўдар абухом па амбіцыях і інтарэсах усіх айчынных дасьледнікаў было нават няясна як рэагаваць, на каго крыўдзіцца. На непрадказальнага экс-сьпікера былога Вярхоўнага Савету? На адсутнасьць патрыятызму ў КДБ? На яго падступнасьць? Прадажнасьць?

Заставалася толькі парадавацца — за амэрыканскага калегу і яго чытачоў, якія нарэшце змаглі пазнаёміцца зь невядомымі дагэтуль менскімі старонкамі сваёй нацыянальнай трагедыі.*

Ну, і сёе-тое ўдакладніць.

І я пазваніў у Нью Ёрк першаму (і дагэтуль адзінаму) аўтару на сьвеце, які атрымаў доступ да матэрыялаў КДБ пра Освальда.

Атрымаць доступ да Нормана Мэйлера было таксама няпроста, але рэч была не ў адсутнасьці спрыяльнай рэзалюцыі ЦРУ, асабістай згодзе ці пярэчаньнях, нейкіх умовах — цяжка было скантактавацца. Ягоны адрас і тэлефон ня значыліся ў даведніках; у Інтэрнэце была старонка Мэйлера, але яе аўтарам і дапісчыкам быў ня сам пісьменьнік, а ягоныя чытачы.

Пакуль аўтар гэтай кнігі лістуецца з выдавецтвам Random House і шле факсы літаратурнаму агенту Мэйлера, можна адкрыць энцыкляпэдыю ці

*У лістападзе 1991 году некаторыя старонкі справы Освальда паказалі журналістам амэрыканскай тэлекампаніі ABC-News. Летам 1991-га і вясной 1992-га з дапамогай маскоўскай тэлепраграмы «Взгляд» у Менск прыяжджаў канадзкі журналіст Пітэр Уронскі — ён сустракаўся са знаёмымі Освальда, запісваў відэаінтэрвію зь імі. Матэрыялы КДБ яму не паказалі. Улетку 1992-га карэспандэнту «Известий» Сяргею Мастаўшчыкову дазволілі сфатаграфаваць сэйф, дзе захоўвалася справа і зрабіць здалёк здымак шасьці тамоў, раскладзеных на крэслах. Ён таксама сустрэўся зь некаторымі знаёмымі Освальда.



набраць імя амэрыканскага пісьменьніка ў Інтэрнэце і ўведаць гады жыцьця (1923—2007), адукацыю (Гарвардзкі ўнівэрсытэт), удзел у другой сусьветнай вайне (служыў на Ціхім акіяне), род заняткаў (празаік, журналіст, драматург, паэт, кінасцэнарыст), публікацыі (больш за 30 кніг, першы раман «Голыя і мёртвыя» выйшаў у 1948-м), узнагароды (двойчы ляўрэат Пуліцэраўскай прэміі, Нобэлеўскі намінант, крытыка называе яго «амэрыканскім Талстым»).

Калі нарэшце дазваніўся, я ўжо ведаў, што перад прыездам у Менск Мэйлер скончыў самую даўгую кнігу ў сваім жыцьці, дакумэнтальна-мастацкі твор «Прывід прасталыткі»: 1300 старонак, прысьвечаных гісторыі ЦРУ (кажуць, кніга ўваходзіць у рэкамэндаваны курс чытаньня для супрацоўнікаў ЦРУ). «Прывід» мусіў мець працяг — другі том, але наступнай стала кніга пра Освальда.

На маё пытаньне наўпрост:

**— Ці ўзяліся б Вы за гэтую кнігу, калі б ня мелі доступу да архіву КДБ?**

Мэйлер даў наўпроставы адказ:

**— Не. Не, я ніколі б нават не пачынаў кнігу бяз гэтага.**

Усё ж некаторыя рэчы пачынаюцца тады, калі пачынаюцца.



## П'еса «Маладыя». Акт 1

Калі Марына Освальд пагадзілася на інтэрвію для кнігі Мэйлера, яна ведала, што пытаньні будуць пра мужа, пра Менск, пра сям'ю — зрэшты, менавіта гэтаму была прысьвечаная цэлая кніга Прысцылы МакМілан «Марына і Лі».

Але, напэўна, яна не магла прадбачыць пытаньня, якое пачуе падчас новай сустрэчы.

**Інтэрвіюер: Ці вы калі сварыліся з-за мыцьця падлогі?**

**Марына: Не.**

**Інт.: А ён калі-небудзь скардзіўся пра падлогу?**

**М.: Ня памятаю. Але ня думаю.**

**Інт.: Вы калі-небудзь спрачаліся пра ўборку дому?**

**М.: Мы, верагодна, спрачаліся нават пра катоў на даху.**

Пытаньне было падказанае архіўнымі дакумэнтамі КДБ.



**З расшыфроўкі падслухоўваньня КДБ 03.08.61**

**18:24** *(уваходзяць у пакой)*

**Жонка** *(крычыць)***: Я стамілася ад усяго гэтага! А што ты? Ты ня можаш сам памыць? Ты, відаць, хочаш, каб я мыла падлогу кожны дзень?**

**ЛГО: Так, мый падлогу штодня!**

**Жонка: Ты нічога ня робіш, а я мушу прыбіраць цэлы дзень. Прыстойны чалавек дапамог бы. Памятаю, як ты казаў: я буду дапамагаць! Аднойчы ты сапраўды памыў, і цяпер бясконца пра гэта гаворыш, а я мыю наша адзеньне кожны раз і гэта зусім ня лічыцца.**

**ЛГО: Ты мусіш прыгатаваць нешта зьесьці!**

**Жонка** *(крычыць)***: Я не магу. Я не зьбіраюся гатаваць.**

**ЛГО: Ты можаш зрабіць катлеты, паставіць ваду на чай. Я кажу, я ж купіў усё, усё.**

**Жонка: Я ня буду.**

**ЛГО: Ты нічога не зрабіла.**

**Жонка: Ну, а што ты для мяне зрабіў?**

**ЛГО: Ціха!**

**Жонка: Я ня буду жыць з табой.**

**ЛГО: Дзякуй Богу!**

**Жонка: Паглядзі на сябе! Акуратны! Ды ты ў дваццаць разоў бруднейшы за мяне. Паглядзі на сваю падушку; ты толькі раз на ёй спаў, а яна ўжо брудная.**

**ЛГО: Ты ніколі нічога ня робіш!**

**Жонка: Правільна, я толькі хаджу на гулянкі, прапіваю сваё здароўе.**

**ЛГО: Ты нічога ня робіш.**

**Жонка: Ты хоць раз прыбраў гэтую кватэру?**

**Я гэта рабіла дваццаць адзін раз. Ты сам зрабі, а потым гавары пра гэта цэлы дзень.**

**ЛГО: Гэты дом трэба прыбіраць кожны дзень. На кухні бруд, брудна ўсюды. Што тут добрага? Ты сьпіш да 10-й раніцы і нічога ня робіш. Магла б у гэты час прыбіраць.**

**Жонка: Мне трэба спаць. Калі табе не падабаецца, можаш ехаць у сваю Амэрыку.**

**ЛГО** *(спакойна)*: **Калі ласка, дзякуй.**

**Жонка: Ты заўсёды знаходзіш хібы; цябе нічога не задавальняе, усё дрэнна.**

**ЛГО: Ты дурная. Лянівая і грубая.**

**Жонка: Я хачу, каб ты адчуў, што такое быць адзін дзень на маім месцы.**

*(пасьля паўзы яна пачынае плакаць)*

**ЛГО: Ну, што здарылася?**

**Жонка: Ідзі прэч! Я табе не прыслуга. Дай мне нармальныя ўмовы.**

**ЛГО: Ня плач. Я толькі кажу, што ты нічога ня хочаш рабіць.**

**Жонка: Так? Я ніколі ня мыла падлогу?**

**ЛГО: Ты — нядобрая хатняя гаспадыня, не, нядобрая хатняя гаспадыня.**

**Жонка: Трэба было ажаніцца з добрай.**

*(яны маўчаць)*

**Жонка: Калі табе не падабаецца, можаш каціцца ў сваю Амэрыку.**

**ЛГО: Я даўно табе казаў, што ты нічога ня робіш.**

**Жонка: Я мыю падлогу кожны дзень.**

**ЛГО: Яна брудная.**

**Жонка: Табе брудная, а мне чыстая. Я ўчора памыла падлогу, а ты ўсюды топчасься ў чаравіках.**



**ЛГО: Там бруд і пыл, бо ты адчыняеш дзьверы на балькон.**

**Жонка** *(крычыць)*: **Ён быў зачынены ўвесь дзень. Ты нічога не разумееш.**

**ЛГО: Ня плач.**

**Жонка: Няўжо ты ня бачыш, што я выціраю пыл штодня?**

**ЛГО: Ты не выціраеш там, на стале.**

**Жонка: Ага, ага, я там пэцкаю. Я двойчы яго мыла, а ты нават аднаго разу не памыў.**

**ЛГО: Супакой свае нэрвы.**

**Жонка: Скажы проста: «Марына, гэта трэба зрабіць». Не крычы; гэта крыўдна. Алька, ты мяне ненавідзіш, калі крычыш на мяне?**

**ЛГО: Так.**

**Жонка: Так?**

**ЛГО: Так.**

**Жонка: Чаму ты баісься людзей? Што цябе напалохала?**

**ЛГО** *(крычыць злосна)*: **Заткніся, заткніся. Ты толькі й ведаеш, што балбатаць.**

**Жонка: Ты ўсіх баісься!**

**ЛГО: Заткніся!**

**Жонка: Ты баісься, што ў цябе ўсё скрадуць, твой гаршчок золата?** *(сьмяецца)* **У такія моманты ты мяне можаш забіць. Табе трэба мець моцную сілу волі.**

**ЛГО: Як наконт трохі бульбы?**

**Жонка: Яна яшчэ не гатовая, што я зраблю?**

**22:37** *(яны ідуць на кухню)*

**22:40** *(жонка прымушае ЛГО вымыць ногі)*

**23:00** *(у пакоі ціха; размовы няма)*

У КДБ, калі чыталі сьвежы запіс п’есы «Маладыя»,

як называе гэтую расшыфроўку Мэйлер, зьвярнулі ўвагу і падкрэсьлілі тры фразы Марыны:

**— Я ня буду жыць з табой.**
**— Калі табе не падабаецца, можаш ехаць у сваю Амэрыку.**
**— Ты ўсіх баісься!..**

У Освальда — толькі адну фразу:

**— Ня плач.***

Словы Марыны «**у такія моманты ты мяне можаш забіць**» нічыёй увагі не прыцягнулі.

*Падкрэсьліваньні КДБ у далейшых тэкстах расшыфровак пазначаныя ў тэксьце.



## П’еса «Маладыя». Акт 2

Другі акт адбыўся праз тыдзень, і хаця героі тыя самыя, спрэчка ідзе пра рэчы нашмат больш сур’ёзныя за падлогу.

**З расшыфроўкі падслухоўваньня КДБ**
**Дата: 11.08.61**

**ЛГО: Калі ты мяне не кахаеш, як ты можаш жыць са мной? Я даю і буду даваць табе ўсё, што толькі магчыма. Чаго ты хочаш? То ты кажаш, што хочаш ехаць са мной, праз хвіліну, што ня хочаш.**
**Жонка: Часам я баюся ехаць з табой. Я не хачу спрабаваць давесьці табе, што тут усё выдатна, а там усё дрэнна. Але нават калі тут я нічога ня маю і ня буду мець, тут дом.**
**ЛГО: Ты тут нічога ніколі ня будзеш мець, але там у цябе будзе муж і ўсё.**
**Жонка: Што я там буду рабіць? Я буду ўвесь час сядзець дома, і на гэтым усё.**

**ЛГО:** **<u>Але ты будзеш са мной. У цябе будзе ўсё.</u>**

**Жонка: Я не шукаю ніякіх матэрыяльных выгадаў. Грошы мяне зусім не цікавяць. Гэта ня важна. Самае важнае для мяне, як ты да мяне ставісься.**

**ЛГО: Ну, тады ўсё ў парадку.**

**Жонка: <u>У мяне няма гарантыі, што ты мяне там не пакінеш.</u> Што тады я буду рабіць?**

**ЛГО: Калі ты мяне не кахаеш — ня едзь.**

**Жонка: Не, я баюся, што ты мяне кінеш. Ты ж тут усё пакідаеш, урэшце.**

**ЛГО: Я пакідаю?!**

**Жонка: Бачыш, ты ўжо крычыш, а як там будзе?**

**ЛГО:. Што ў цябе тут ёсьць? Нічога. Адзін пакой. Гэта шмат? Адзін пакой, які табе нават не належыць.**

**Жонка: Мы тут жывем, гэта наша.**

**ЛГО: Ты лічыш, гэта маё? А я зусім не адчуваю, што гэта мая маёмасьць. Я не адчуваю, што гэта маё.**

(*Паўза.*)

**Жонка: Ты мяне мучыш.**

**ЛГО: Не магу цярпець, калі ты такая, як цяпер. Я кажу адно, ты другое.**

(*Паўза.*)

**Жонка: Сьпі ціха.**

**ЛГО: Як я магу спаць ціха, каля я ня ведаю, што ты пра мяне думаеш? У цябе ўсё заўсёды залежыць ад настрою. Трэба раз і назаўсёды вырашыць.**

**Жонка: Ідыёт, ты нічога не разумееш.** *(Дражніць яго.)* **Маёмасьць, маёмасьць.**



**ЛГО: Ты не разумееш канцэпцыі маёмасьці. Ты сама ня ведаеш, чаго хочаш. <u>Я хачу там жыць, бо там высокі ўзровень жыцьця.</u>**

**Жонка: А ты думаў, ты сюды прыедзеш і зусім ня трэба будзе працаваць, жыві толькі? <u>Чаму ты не вучыўся? Ты мог вучыцца, ты проста гультай.</u>**

**ЛГО: Ты нічога не разумееш. Мільёны людзей увесь час пакідаюць гэтую краіну. Тут грубыя людзі.**

**Жонка: <u>Ты на нас глядзіш праз чорныя акуляры.</u>**

**ЛГО: Якія чорныя акуляры? Гэта няпраўда.**

**Жонка: Я, напрыклад, не кажу дрэнна пра Амэрыку. Гэта непрыстойна.Трэба быць сапраўднай сьвіньнёй, каб дрэнна казаць пра краіну, якую ня ведаеш. І я так не раблю.**

**ЛГО: Можа быць, але ты будзеш там жыць. <u>Там высокі ўзровень жыцьця.</u>**

**Жонка: Ты не разумееш. Гэта ня мой дом. Я там не пачую расейскай мовы.**

**ЛГО: Калі ты хочаш ехаць — едзь. Калі не, тады не.**

**Жонка: Я не паеду. Я баюся. Нават цяпер, калі прыходзіць Эрык і вы гаворыце па-ангельску, я не магу гэта пераносіць.**

**ЛГО: Ты гаворыш, як нейкая старая вясковая цётка.**

**Жонка: Мы ніколі ня зможам зразумець адно аднаго.**

**ЛГО: Калі ты хочаш ехаць, ты паедзеш!**

**Жонка: Не крычы.**

**ЛГО: Ты мяне прымушаеш крычаць. Я не грублю. Ты стала непрыстойная і дрэнная.**

**Жонка: Ты.**

**ЛГО: Не, я быў прыстойны і добры, калі мы сустрэліся. Але ў цябе было шмат непрыстойнасьці.**

**Жонка: Я так не лічу. Я нават ні разу не пацалавала Сашу. Ніхто не называў мяне непрыстойнай. Я не паводзіла сябе як іншыя дзяўчаты. У мяне не было маці, якая б накіравала мяне на правільны шлях. Раз на тыдзень я паводзіла сябе па-дурному.**

**ЛГО: Я разумею.**

**Жонка: Табе трэба, каб усё было памяркоўна. Калі б я толькі ведала!**

**ЛГО: За апошні месяц ты зусім зьмянілася. Ні пяшчоты, нічога. Калі б ты не была цяжарнай. Я не магу крычаць на цябе ў прысутнасьці іншых людзей, але ты заўсёды пра мяне рознае гаворыш, калі вакол людзі. А потым ты кажаш казкі пра тое, што я ад'яжджаю, пакідаю цябе і ва ўсім вінаваты. <u>Але нават калі так, я хачу, каб ты была са мной</u>. Я разумею, што ты такая, якая ёсьць і ня можаш быць іншай. (*паўза*) Чаму ты прыкідваесься, што цябе так пакрыўдзілі? Самая няшчасная дзяўчына на сьвеце. Ты нясеш лухту.**

**Жонка: Ідзі да д'ябла!**

**ЛГО: Ты мяне не паважаеш.**

**Жонка: Алік, мы ўжо дастаткова сварыліся. І цяпер зноў.**

**ЛГО: Раней ты не была такой.**

**Жонка: Ты таксама.**

**23:35 (*ціха; яны сьпяць*)**

Марына цяжка пераносіла першыя месяцы



цяжарнасьці — яе раздражнялі пахі на вуліцы, у кватэры, нават на бальконе, пах мужа, пах ежы.

Плюс стрэс і страх — намер паехаць у Амэрыку ўспрымаўся як здрада радзіме.

Тут заплачаш.*

---

*П'еса аказалася трох- ці нават чатырохактавай. Трэці акт — жыцьцё з Освальдам у Амэрыцы. Пасьля сэрыі скандалаў з гвалтам (Освальд яе зьбіваў) у лютым 1963-га Марына напісала ў савецкую амбасаду першы ліст пра вяртаньне, у сакавіку — другі. Яна зноў была цяжарная і спадзявалася зьехаць да нараджэньня дзіцяці, і прасіла вярнуцца ня ў Менск, а ў Ленінград. Аднак з савецкай амбасады паведамілі, што афармленьне папераў можа заняць 5-6 месяцаў. Освальд чакаў сына і нават выбраў яму імя Фідэль, у гонар Кастра. У кастрычніку нарадзілася дачка, якую назвалі Рэйчал. Освальд, які таксама напісаў запыт на савецкую візу, мяняў месцы працы і, нарэшце, у лістападзе зьехаў з тэхаскага гораду Форт Ворт у Далас, пакінуўшы замест адрасу нумар паштовай скрынкі. Чацьверты акт — пасьля забойства Кенэдзі. Расьсьледаваньне зрабіла Марыну вядомай на ўсю Амэрыку — яна давала інтэрвію, пра яе пісалі кнігу, зьявіліся грошы, і яна «загуляла» — стала праводзіць дні ў боўлінгу, начных клюбах, на вечарынках, атрымала мноства прапановаў выйсьці замуж — паўтарыла, як сама казала, свой «ленінградзкі пэрыяд». У 1965 годзе яна выйшла замуж за мясцовага ўладальніка ранча Кенэта Портэра, нарадзіла сына Марка, разьвялася з Портэрам праз дзесяць гадоў, але засталася жыць разам зь ім.



## Талстаеўскі

Мэйлер паталягічна скрупулёзна вывучаў менскае жыцьцё Освальда. Ён пераглядаў шматлікія здымкі і дакумэнты, сабраныя Камісіяй Ўорэна, з рапартаў КДБ мог намаляваць падрабязныя маршруты яго перамяшчэньняў па горадзе, з расказаў знаёмых і Марыны дакладна ведаць, дзе ў кватэры стаялі чобаты, ляжала паляўнічая стрэльба, якія кнігі былі на паліцах — але ўсярэдзіне ня быў.

Чаму — магчыма, таму, чаму мне самому не прыйшло ў галаву задаць яму гэтае пытаньне. Таму што не хацеў, бо якое гэта мае значэньне. Таму што хацеў, але не пасьпеў ці ня змог. Таму што той, хто там жыў, не пусьціў. Таму што Мэйлера называлі амэрыканскім Талстым.

Апошняя, літаратурная вэрсія вымагае тлумачэньня.

Нагадаем сюжэт: малады чалавек шукае сэнс жыцьця, прагне справядлівасьці, бачыць вакол шмат зла, лічыць сябе адрозным ад іншых і ні з кім блізка не сыходзіцца, гатовы разарваць сувязі



зь сям’ёй і забіць нават брата, калі той стане на яго шляху, нават ад блізкіх знаёмых хавае свае пляны і намеры, расчароўваецца ў ідэале, перакананы, што ён не такі, як усе, і дзеля вышэйшай мэты мае права і можа забіць.

Гэта апісаньне ня Освальда, а Раскольнікава, а таксама тэорыяў і матывацыяў герояў Дастаеўскага з раманаў «Бесы», «Браты Карамазавы». «Бесы», дарэчы, у ангельскім перакладзе называюцца «Posessed» — «Апантаныя».

Дастаеўскі сапраўды некалькі разоў зьяўляецца ў «Гісторыі Освальда»: на сваё 20-годзьдзе герой атрымлівае ў падарунак раман «Ідыёт», уведаўшы, што Освальда ў Менску пачынаюць зваць «Алёша», Мэйлер адразу ўдакладняе — таму што так звалі аднаго з братоў Карамазавых? Але, магчыма, прычына яшчэ больш простая: Мэйлер мог адчуваць, што яго герой насамрэч герой не Талстога, а Дастаеўскага. Дэтэктыўны сюжэт з забойствам, якое зьдзяйсьняе «малы» чалавек, які адчувае сваё пакліканьне — клясыка клясыка расейскай літаратуры.

Пайсьці ў менскую кватэру Освальда было б тым самым, што пайсьці на месца забойства ў Даласе, цытатай са «Злачынства і пакараньня» — і рэч ня ў тым, што цытата, а ў тым, што занадта блізкая, і таму не мастацкая, а Мэйлер усё ж пісьменьнік.

«Гісторыя Освальда» Мэйлера сапраўды выглядае як раманы Дастаеўскага: гісторыя, на якую хапіла б і двухсот старонак, займае ўчацьвёра болей, структурныя часткі непрапарцыйныя, не зьвязаныя, унутраную лёгіку замяняе ідэя мазаічнай стракатасьці пэрсанажаў, колькасьць якіх сягае за тысячу, большасьць зь іх не патрабуюцца для сюжэту, але маюць цікавую ўласную біягра-

фію і перажываньні, ролю ўнутраных маналёгаў і бясконцых дыялёгаў выконваюць расшыфроўкі падслухоўваньня КДБ, а 17 афіцэраў і генэралаў, якіх распытваў аўтар, увасабляюць калектыўнага сьледчага Парфірыя Парфір'евіча.

Адна з адметнасьцяў Мэйлера — яго бязьлітасная фіксацыя на сэксуальным жыцьці герояў. Характэрны прыклад — кніга пачынаецца з гісторыі Валянціны Прусаковай, жонкі Марынінага дзядзькі палкоўніка МУС Ільлі Прусакова. Мэйлер запісвае яе даўгі аповед пра страшнае савецкае жыцьцё, ГУЛАГ і вайну, прымусовую працу ў Нямеччыне, знаёмства зь лейтэнантам — будучым мужам, які быў на 15 гадоў старэйшы, яго сухасьць і стрыманасьць, дысцыпліну, такт, элегантнасьць, павагу да яе і іншых (дастаеўская дэталь: перад сьмерцю ён хварэў, і калі «хуткая» прыехала, ён спытаўся — думаеш, трэба гальштук надзець?), і потым згадвае, як пасьля яго сьмерці яна разьбірае рэчы і знаходзіць — яшчэ больш дастаеўская дэталь — пачак фатаздымкаў з голымі жанчынамі. І ўздыхае — мужчыны ёсьць мужчыны.

Гэтая пасьмяротная маленькая прыватная таямніца пабочнага пэрсанажа, зь якім аўтар нават не сустракаўся, не патрэбная ні для разьвіцьця сюжэту, ні для тлумачэньня характару галоўных герояў, ні для кантэксту — але як любы схаваны грэх, яна арганічная для паэтыкі Дастаеўскага (напрыклад, разьдзел «У Ціхана» ў «Бесах»).

Больш за ўсіх ад гэтай паэтыкі пацярпела Марына. Усіх, каго можна, Мэйлер распытваў пра яе бурную маладосьць у Ленінградзе, запісваў падрабязную пахвальбу менскага знаёмага, які хваліўся, што меў сэкс з Марынай перад вясельлем, пасьля



вясельля, увесь час. Мэйлер распытваў сяброўак з аптэкі — што яны ведалі пра мінулае Марыны. Ён цытуе перакладчыцу Інтурысту, якая, пачуўшы навіну пра шлюб Освальда, называе яго жонку вулічнай прастытуткай. І апатэоз — пяцідзённае інтэрвію з самой Марынай у Тэхасе, дзе яна прызнаецца, што яе згвалціў багаты замежнік, у гатэлі, яна не магла крычаць, бо баялася дзяжурную на калідоры.

Ёй было 17 гадоў, жыла бяз маці, з айчымам, які яе ледзьве цярпеў. І ўсё гэта адбывалася ў горадзе Дастаеўскага, зь белымі начамі, беднымі людзьмі, разьбітымі лёсамі.

Сонечка Мармяладава са «Злачынства і пакараньня». Марушка зь «Бесаў», Наташа з «Прыніжаных і зьняважаных».

Падчас гутаркі я спытаўся ў Мэйлера, як Марына рэагавала на публікацыю падрабязнасьцяў яе прыватнага жыцьця ў інтэрпрэтацыі КДБ і з дэталямі, якія здабыў сам аўтар?

**— Адбылося наступнае. Шылер, як я казаў, вялікі гандляр. Калі ён пераконваў Марыну даць мне інтэрвію, ён сказаў у якасьці аргумэнту: вы мусіце гэта зрабіць. Гэта гісторыя. Норман Мэйлер ёсьць нашым амэрыканскім Талстым! Ужо пасьля таго, як кніга выйшла, ён пазваніў ёй і спытаўся пра ўражаньні і яна сказала:**

**— Ніякі ён не Талсты!**

У амэрыканскіх унівэрсытэтах кажуць — «Tolstojevsky».



## Освальд і Пушкін

Апошняя восень у Беларусі для Освальда пачалася з таемнага візыту ў Маскву. Таемнага, бо пра яго нідзе няма зьвестак — ні ў матэрыялах КДБ, якія атрымаў Мэйлер, ні ў дакумэнтах амэрыканскай амбасады, ні ў ліставаньні Освальда зь сям'ёй, ні ў яго «Гістарычным дзёньніку».

**Дзёньнік ЛГО**
**21 жніўня — 21 верасьня, 1961**

**Хаджу ў пашпартны стол у аддзел візаў, таксама ў міністэрства замежных справаў у Менску, таксама ў міністэрства ўнутраных справаў, ад якіх залежыць рашэньне аб візе.**

Адзіным сьведчаньнем паездкі ці палёту ў Маскву стаў рэчавы доказ 374 Камісіі Ўорэна: падчасператрусу пасьля забойства сярод асабістых рэчаў Освальда паліцыя канфіскавала яго «Білет чытача № 3095/к» Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У.І. Леніна. Білет на імя «Освальда Лі Гарві» ў навуко-



вую чытальную залю № 1 быў выпісаны ў чацьвер, 7 верасьня 1961 году, тэрмінам на адзін месяц.

Што рабіў, дзе быў, дзе спыняўся, колькі дзён правёў Освальд у Маскве падчас той паездкі — не вядома нічога, апроч візыту ў бібліятэку. Картатэка заказаў чытачоў даўно зьнішчаная, і што ён чытаў у навуковай залі — амэрыканскую прэсу, зборнік законаў ці творы Леніна, невядома.*

Але гэта не адзіная загадка апошняй восені.

**Дзёньнік ЛГО**
**Верасень — 19 кастрычніка 1961**

**Нічога не чуваць зь міністэрстваў («Яны нам самі пазвоняць»). Марына цягніком едзе зь Менску да цёткі ў горад Харкаў на Ўрал на 4 тыдні. У гэты час я адзін, але разам з Эрыкам хаджу на танцы і ў іншыя грамадзкія месцы на забавы. Ужо некалькі месяцаў не рабіў гэтага. Дзень нараджэньня праводжу адзін у опэры, гляджу маю любімую «Пікавую даму». Мне споўнілася 22 гады.**

Мэйлер пакідае геаграфічную памылку без агаворкі, магчыма, сам не заўважыўшы яе ці палічыўшы, што ўкраінцы не пакрыўдзяцца. Ён робіць важнае назіраньне — восеньню, пасьля ўсіх спрэчак і сварак, у Освальдаў настаў час пэўнага ахаладжэньня. Лісты зь Менску ў Харкаў сухія, кароткія, і раптам нешта мяняецца, мяняюцца лісты — іх піша быццам іншы чалавек.

*Освальд таксама быў чытачом галоўнай бібліятэкі Беларусі, «Ленінкі» — але картатэка таксама не захавалася.

**18 кастрычніка:**

**Ну, хутка ты вяртаесься назад. Я буду вельмі рады цябе зноў бачыць — як я буду цябе любіць!..**

**22 кастрычніка:**

**Мая мілая дзяўчынка! Сёньня я атрымаў тваю паштоўку; дзякуй, мілая, толькі мне не падабаецца, што ты балбочаш, што ты прадчуваеш, што згубіш мяне. Ты ніколі ня згубіш мяне, і ўсё! Ты ня кажаш, калі вяртаесься. Скажы як найраней. Ты хутка будзеш дома. Будзе так добра зноў быць з табой.**

У матэрыялах Камісіі Ўорэна захоўваецца аркуш, знойдзены падчас ператрусу дома ў Освальда. На ім рукой Освальда па-расейску даволі дакладна і падрабязна запісаны словы любоўнай арыі з другога акту «Пікавай дамы».

**Я вас кахаю так адчайна,**
**Бяз вас мне не пражыць і дня.**
**І подзьвіг сілы надзвычайнай**
**Для вас гатовы зьдзейсьніць я.***

Мэйлер цытуе 24 радкі арыі і робіць выснову:

**Пушкіну і Чайкоўскаму ўдалося вярнуць яго да каханьня.**

Выключна дзеля пэдантычнасьці — паэма Пушкіна, але словы лібрэта належаць не паэту, а брату кампазытара Мадэсту.

*Тэкст для Камісіі Ўорэна быў перакладзены на ангельскую і так даецца ў кнізе Мэйлера. Пераклад на беларускую з расейскага арыгіналу.



І дзеля дакладнасьці: паводле архіваў Вялікага тэатру опэры і балету БССР (званьне «акадэмічнага» было нададзена пазьней), 18 кастрычніка, у дзень народзінаў Освальда, «Пікавую даму» на яго сцэне ня гралі. У тэатральным архіве ў журналах рэгістрацыі пазначана, што 7 кастрычніка на сцэне адбылася прэм’ера опэры Яўгена Глебава «Мара», і больш нічога. Як патлумачылі супрацоўніцы архіву, далей тэатар быў на гастролях.

Застаюцца тры магчымасьці. Першая — Освальд несьвядома памыляецца, бо піша ці перапісвае дзёньнік нашмат пазьней і блытае год («Пікавую даму» гралі ў кастрычніку 1960-га, праўда не 18-га, а 15-га); другая — Освальд сьвядома робіць непраўдзівы запіс, матывацыя незразумелая; трэцяя — тэатральныя архівы памыляюцца.

Была яшчэ чацьвёртая магчымасьць — Освальд сапраўды слухаў Чайкоўскага, але ня ў опэрным тэатры, а ў кінатэатры. У 1960-м на экраны выйшаў фільм-опэра »Пікавая дама». Марына ўжо ў Амэрыцы пісала ў сваіх паказаньнях для ФБР:

**Улюбёная опэра Лі была «Пікавая дама». У Расеі зрабілі фільм па гэтай оперы, цудоўны фільм. Лі хадзеў глядзець яго чатыры ці пяць разоў...**

Высьветліць, куды мог пайсьці адзінокі малады чалавек у Менску ў 1961 годзе, каб задаволіць свае культурныя патрэбы, не лягчэй, чым аднаму літаратурнаму герою было знайсьці дванаццатае крэсла — горад яшчэ ня меў сваёй газэты, а афішы з тумбаў і рэклямных шчытоў даўно абарваў вецер гісторыі.

Але паспрабаваць можна. Галоўная рэспубліканская газэта «Звязда» друкавала ня толькі абавязко-

вые пастановы партыі і ўраду, але і рэпэртуарную афішу сталіцы.

З тэатрам опэры і балету ўсё проста — там неахайна ці, прынамсі, вельмі спэцыфічна вялі архівы. Насамрэч да ад'езду на гастролі ў канцы месяца трупа была ў Менску да 25 кастрычніка і сыграла паўтара дзясятка спэктакляў — усе абвесткі спраўна друкавала «Звязда». Але «Пікавай дамы» сярод іх не было.

У 1961-м у Менску было 17 кінатэатраў, іх рэпэртуар таксама друкавала газэта — але цягам кастрычніка нідзе ні разу не круцілі фільм-опэру.

Ні разу, ні ў тэатры, ні ў кіно ў тым кастрычніку ў Менску не гучала знакамітая арыя пра ўдачу і няўдачніка, доля якога, як вядома, плакаць. За адным магчымым выняткам.

Напярэдадні дня народзінаў Освальда, 17 кастрычніка, у Маскве адкрыўся 22-гі партзьезд, і ў наступны дзень газэты мусілі друкаваць гіганцкую прамову Мікіты Хрушчова, якая заняла ўвесь здвоены нумар і не пакінула месца ні для радка пра надвор'е, ні для шахматнага эцюду, ні для кіна-канцэртнага і тэатральнага рэпэртуару дня.

Рэпэртуарная дата 18 кастрычніка ня выплыла з пажоўклых старонак фрагмэнтарнага тэатральнага архіву, а ў газэтах была пахаваная пад татальным шматслоўем партыйнага правадыра.

У той дзень можна было ўведаць, што Сталін яшчэ большы злачынца, чым сказалі пра гэта пяць гадоў таму на такім самым зьезьдзе, што да антыпартыйнай групы Малянкова далучыўся рэдактар «Правды» Шапілаў і на ўсё жыцьцё атрымаў тытул «и примкнувший к ним», так, відаць, і на помніку на могілках напісалі, а маршал Варашылаў проста



зьбіўся з тропу, і што камунізм пабудуецца праз дваццаць гадоў, і шмат яшчэ чаго.

Але пра «Пікавую даму» нічога ў той дзень ня ўведаеш, апроч як з запісу Освальда.

І толькі на шпацыры па гарадзкіх вуліцах патрапіць раптам на вочы старая шыльда «Дом культуры», і прыйдзе ў тлумную галаву неабавязковая думка — фільмы ж яшчэ круцілі ў заводзкіх клюбах і прафсаюзных палацах культуры, а іх рэпэртуар газэты не друкавалі.

Мог, мог Освальд злавіць «міг удачы» ў свой апошні дзень нараджэньня ў Менску.



## Дагнаць Амэрыку

У канцы 1961-га на заводзе мянялі наглядную агітацыю — на стэндах вывесілі «Маральны кодэкс будаўніка камунізму»* і сьвежыя цытаты з выступу на партыйным зьезьдзе Хрушчова:

**Цяперашняе пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме!**
**Дагонім і перагонім Амэрыку!**
**Нашы мэты ясныя, задачы вызначаныя, за працу, таварышы!**

*Тэкст па рэалістычнасьці нагадваў «Атэнскую сыстэму» Освальда, але ўпор рабіўся на градацыю пачуцьцяў: любіць патрабавалася сацыялістычную радзіму і краіны сацыялізму, да працоўных усіх краінаў рэкамэндавалася праяўляць салідарнасьць, да справы камунізму — адданасьць, да агульнай маёмасьці — клопат, да грамадзкага абавязку — сьвядомасьць, да членаў сям'і — павагу, да дармаедзтва — непрымірымасьць, да ворагаў міру — нецярпімасьць, да асабістага жыцьця — прастату. Кодэкс, як успамінаў адзін з аўтараў, быў напісаны за паўтары гадзіны групай сьпічрайтараў ЦК, якія адыходзілі пасьля цяжкай п'янкі напярэдадні (часопіс «Российский адвокат», http://gra.litsa.ru/magazine.php?m=60&a= 3).



У адзіны лістападаўскі запіс Освальда ў дзёньніку, аднак, гэтыя слоганы не патрапілі.

**Дзёньнік ЛГО**
**2 лістапада 1961**

**Вяртаецца Марына, вясёлая, прывезла некалькі слоікаў закансэрваванай гародніны для мяне ад сваёй цёткі з Харкава.**

Даганяць Амэрыку Освальды вырашылі самі. Аднак спробы пераканаць іх дачакацца камунізму працягваліся.

**Рапарт КДБ**
**20.11.61**

**Падчас сустрэчы 20 лістапада 1961 году Прусакоў І.В. патлумачыў, што цягам апошняга часу двойчы гаварыў са сваёй пляменьніцай Марынай і яе мужам Освальдам Л.Г. Як сваяк жонкі Освальда, Прусакоў выказаў меркаваньне, што рашэньне Освальда вярнуцца ў Амэрыку можа быць памылковым. Прусакоў гаварыў зь ім пра складанае міжнароднае становішча, а таксама пра магчымасьць яго прызыву ў амэрыканскае войска, праблемы з працай у Амэрыцы, а таксама пра пэўную магчымасьць яго арышту там.**

**Освальд патлумачыў Прусакову, што наўрад ці яго прызавуць на вайсковую службу, бо ён ужо адслужыў свой тэрмін. Што датычыцца магчымага арышту — ён ня думае, што супрацоўнікі амбасады сталі б яму хлусіць. Тым ня менш, Освальд паабяцаў яшчэ раз узважыць усе гэтыя акалічнасьці, датычныя яго вяртаньня ў Амэрыку.**

**Далей Прусакоў патлумачыў, што ён таксама спрабаваў пераканаць сваю пляменьніцу Марыну, што ехаць у ЗША немэтазгодна. Такі самы ўплыў на яе рабіла яе цётка Паліна, якая жыве ў Харкаве. У выніку гэтых гутарак Прусакоў вырашыў, што Марына ня надта хоча ехаць. Аднак яна была вельмі заклапочаная тым, як жыць далей, калі ў яе будзе дзіця ад Освальда.**

**Прусакоў даў абяцаньне працягваць працу па перакананьні Освальда і яго жонкі, каб тыя зьмянілі сваю думку наконт паездкі ў Амэрыку. Прусакоў не згадаў якіх-небудзь падазроных момантаў у паводзінах Освальда.**

Мэйлеру Марына прыгадала, што харкаўская цётка сапраўды адгаворвала яе ад Амэрыкі. Але цётчын сын сказаў — слухай сваё сэрца і рабі, як трэба табе.

**Дзёньнік ЛГО**
**Сьнежань 1961**

**Затрымка пачынае раздражняць. Марына пачынае сумнявацца, ці варта ехаць у ЗША. Верагодна, з-за напружаньня і ад цяжарнасьці, мы сварымся і ўсё ня так ужо і добра, асабліва з надыходам суровай расейскай зімы.**

У сьнежні Марыне пазванілі на працу і сказалі прыйсьці ў МУС-КДБ — абедзьве ўстановы месьціліся ў адным будынку, і яна не была ўпэўненая, калі расказвала Мэйлеру пра сустрэчу сам-насам зь сівым чалавекам у форме, ці быў ён з АВІРу ці з КДБ. Гаворка ішла пра адʼезд — матывы, намеры, ці добра падумала, ці не нашкодзіць сваякам, ці ўпэўненая ў сваім жаданьні, затым суразмоўца пераключыўся на нефармальны тон і пачаў гаварыць як чалавек, які па ўзросьце даводзіцца ёй дзедам, бо хто яго ведае, як там складзецца шлюб і жыцьцё. Яна запомніла, што пагрозаў не было.



Гэта была апошняя спроба паўплываць на рашэньне Марыны.

У храналёгіі КДБ 6 сьнежня 1961 году Освальд зьвярнуўся да амэрыканскага сэнатара Джона Таўэра па дапамогу ў вяртаньні ў ЗША. Мэйлеру далі копію перакладу гэтага ліста на расейскую.

**Дарагі сэнатар Таўэр!**
**Мяне завуць Освальд. Калі я прыехаў у Савецкі Саюз, я прадʼявіў дакумэнты, што я — амэрыканскі грамадзянін і прыехаў у Савецкі Саюз часова. Амэрыканская амбасада ў Маскве знаёмая з маёй справай.**
**Пачынаючы зь ліпеня я спрабаваў беспасьпяхова атрымаць выязную візу, каб паехаць у ЗША, але савецкія ўлады адмаўляюць у дазволе мне і маёй жонцы выехаць.**
**Я грамадзянін Злучаных Штатаў (пашпарт № 1733242, 1959) і я прашу Вас дапамагчы мне, таму што савецкія ўлады трымаюць мяне супраць маёй волі.**

Освальд, вядома, ня мог ня памятаць, што адбылося падчас яго першага паходу ў амэрыканскую амбасаду ў Маскве — а калі б і забыўся, пад рукой быў «Гістарычны дзёньнік».

**Дзёньнік ЛГО**
**31 сьнежня 1959**

**У 12:30 я прыяжджаю ў амэрыканскую амбасаду, заходжу і кажу дзяжурнай «я хацеў бы**

**бачыць консула», яна паказвае на вялікі журнал і кажа, «калі вы турыст, калі ласка, зарэгіструйцеся». Я дастаю мой амэрыканскі пашпарт і кладу яго на стол, я прыйшоў скасаваць сваё амэрыканскае грамадзянства, кажу я звычайным тонам.**

**Яна ўстае й ідзе ў кабінэт Рычарда Снайдэра, генэральнага консула ў той час. Ён запрашае сесьці. Скончае ліст, які друкаваў, і пытаецца, чым можа дапамагчы. Я кажу, што хацеў бы ўзяць савецкае грамадзянства і хацеў бы скасаваць амэрыканскае. Яго памочнік (цяпер генэральны консул) МакВікерс падымае галаву ад папераў. Снайдэр кажа — запісвае асабістую інфармацыю, папярэджвае, каб я не рабіў ніякіх крокаў перад тым, як саветы мяне возьмуць, кажа, што я «дурань», і кажа, што паперы на выхад з грамадзянства патрабуюць шмат часу на падрыхтоўку (іншымі словамі, адмаўляе мне ў скасаваньні грамадзянства ЗША).**

**Я заяўляю, што прыняў рашэньне. З гэтага дня і ў будучыні я не лічу сябе грамадзянінам ЗША. Я праводжу ў амбасадзе 40 хвілін, пакуль Снайдэр ня кажа: «Калі вы ня хочаце больш падрабязна расказаць пра свае марксісцкія перакананьні, дык можаце ісьці». Я хачу пазбавіцца ад амэрыканскага грамадзянства, а ён фактычна кажа — ня сёньня. Я іду з амбасады, прыўзьняты ад гэтага супрацьстаяньня, і калі вяртаюся ў гатэль, адчуваю, што патраціў свае сілы недарэмна. Я ўпэўнены, што расейцы мяне прымуць пасьля такой дэманстрацыі маёй веры ў іх.**

Даволі дакладна вядома, што падумалі ў КДБ як пасьля дэманстрацыі ў амбасадзе ў сьнежні



1959-га, гэтак і пасьля дэманстратыўнага абвінавачаньня савецкіх уладаў у гвалтоўным трыманьні амэрыканскага грамадзяніна ў сьнежні 1961-га — і ў першым і ў другім выпадках пахла міжнародным скандалам.

Як патлумачылі Мэйлеру, першы скандал, падслуханы і запісаны КДБ у амбасадзе, быў настолькі гучны — Освальд павышаў голас, крычаў, што раскажа ўсе вайсковыя сакрэты — што адначасна разглядалі вэрсіі, што гэта «легенда» ЦРУ, нават двайнога характару (спэцыяльна ўсё так апэрэтачна-непраўдападобна, каб падмануць КДБ і пераканаць, што ЦРУ так тапорна не зрабіла б — нешта такое).

Пасьля сачэньня за жыцьцём Освальда ў Менску і зьняцьця копіі зь ліста да сэнатара Таўэра ў КДБ пабачылі, што скандал можа быць, але зь іншай прычыны. Канчаткова справа вырашалася ў Маскве, і туды былі пасланыя заключэньні менскага КДБ і іншыя паперы, у тым ліку — характарыстыка Освальда для гараддзелу міліцыі, падпісаная дырэктарам заводу і начальнікам аддзелу кадраў.

**Менскі радыёзавод**
**11.12. 61**

**Характарыстыка**

**Лі Гарві Освальд быў прыняты на працу ў якасьці рэгуліроўшчыка экспэрымэнтальнага цэху гэтага заводу 13 студзеня 1960 году. Падчас працы рэгуліроўшчыкам яго праца была нездавальняючай. Не праяўляе ініцыятывы дзеля падвышэньня майстэрства рэгуліроўшчыка.**

**Грамадзянін Лі Гарві Освальд балюча рэагуе**

**на заўвагі майстра і неахайны ў працы. Грамадзянін Л.Г. Освальд не бярэ ўдзелу ў грамадзкім жыцьці нашага заводу і пераважна паводзіць сябе няшчыра.**

Аднойчы а 7-й раніцы ў нядзелю 18 сьнежня 1961 году Освальдам у дзьверы пазванілі — усе на выбары! У гэты дзень выбіралі судзьдзяў. Освальд не адчыніў. Потым прыйшлі зноў. І Освальд пачаў крычаць праз зачыненыя дзьверы — гэта свабодная краіна! Так напісана ў Канстытуцыі. Ён прачытаў напалоханай Марыне цэлую лекцыю на гэтую тэму — у свабоднай краіне не прымушаюць людзей хадзіць на выбары.

Невядома, крычаў Освальд і спасылаўся на сталінскую канстытуцыю як марксіст, які яе вывучаў, ці пратэставаў як чытач Орвэла, знаёмы з фэномэнам «двухдумнасьці». У любым выпадку, агітатараў ён напалохаў, больш не прыходзілі.

Сваю канчатковую выснову зрабіў і КДБ. Освальд найхутчэй не агент ЦРУ, але зарэкамэндаваў сябе як чалавек без камуністычных прынцыпаў, які ня надта хацеў працаваць і вучыцца. Толькі галаўны боль.

КДБ даў заключэньне: пярэчаньняў для выдачы выязной візы Освальду няма.

На адзін галаўны боль меней.

Як той казаў — ну-ну.



## Навагодні сьмех

Свой першы Новы год у Савецкім Саюзе Освальд сустракаў у Маскве адзін, у нумары гатэлю «Мэтраполь» — быў у ложку а 10-й вечара, пасьля паходу ў амбасаду, дзе ён заявіў пра адмову ад амэрыканскага грамадзянства.

Другі Новы год Освальд правёў у Менску ў сям'і Элы Герман, у якую быў закаханы — і калі яна не прыняла прапановы, ажаніўся з Марынай Прусаковай, «каб насаліць Эле».

Напярэдадні трэцяга і апошняга Новага году ў СССР у Освальда зьмяніўся паштовы адрас — у сьнежні вуліца Калініна была перайменаваная ў Камуністычную.

Разам з жонкай яны былі запрошаныя на суседнюю вуліцу Чырвоную, 14 да Зігераў. Менавіта Аляксандар Зігер быў першым, хто параіў Освальду вяртацца ў Амэрыку — і Новы год Освальды сустракалі з важнай навіной.

**Дзёньнік ЛГО**
**25 сьнежня 1961**

**Раство, аўторак. Марыну выклікаюць у пашпартны стол і аддзел візаў. Ёй кажуць, што нам далі савецкія выязныя візы. Яна запаўняе анкеты і вяртаецца дадому з гэтай навіной. Выдатна (я лічу)! Новы год сустракаем апоўначы за сталом у Зігераў, яшчэ шэсьць гасьцей.**

Як вынікае з тэксту, запіс зроблены не 25 сьнежня, а найраней у студзені, пасьля сьяткаваньня — але галоўная навіна пра візы прыйшла менавіта перад Новым годам, і ўпершыню за шмат часу ў Освальдаў добры настрой.

**Расшыфроўка падслухоўваньня КДБ**
**31.12.61**

**ЛГО: У гэтай сукенцы ты ня будзеш добра выглядаць.**
**Жонка: Чаму?**
**ЛГО: Занадта адкрытая.**
**Жонка: Дзе яна адкрытая? Прыгожа.**
**ЛГО: Не пасуе.**
**Жонка: А вось мае туфлі — іншая справа! Яны зусім не пасуюць.**
**ЛГО: Ты сапраўды ня ўмееш апранацца, далібог!**
**Жонка: Купі мне іншыя туфлі.**
**ЛГО: Гэта прыгожыя туфлі.**
**Жонка: Гэта так. Але яны не пасуюць на зіму. Яны белыя. Ёсьць зімовыя туфлі і летнія туфлі.**
*(ЛГО ідзе на кухню і адразу вяртаецца.)*
**ЛГО: Ты зьбіраесься надзець пінжак?**
**Жонка: Які пінжак? У мяне няма ніякіх пінжакоў. Ты думаеш, што ім якая-небудзь розьніца, калі яны пабачаць, што гэта дрэнна выглядае?**
**ЛГО: Так!**
**Жонка: Гэта проста сукенка.**
**ЛГО: Не, яна непрыгожая!**
**Жонка: Ну, гэту я не магу надзець. Яна ўся ў дзірках. Ня ведаю, што надзець.**
**ЛГО: Усё будзе добра. Усё будзе цудоўна.**
**Жонка: Ты ведаеш, што я нікому не патрэбная.**
**ЛГО: Езус, а што наконт Освальда?** *(Цалуе яе.)* **Людзі будуць на нас глядзець і казаць, вось прыгожая пара!**
**Жонка: Прыгожая!** *(Сьмяецца.)* **Тады я пайду ў спадніцы і свэтры. Табе проста стане сорамна.**
*(Паўза.)*
**Калі б было што насіць, я апранулася б лепш за цябе, лепш за тваіх амэрыканцаў!** *(Яны сьмяюцца.)*
**Жонка: Калі б на мне былі гэтыя туфлі, калі мы ўпершыню сустрэліся, ты са мной нават ня стаў бы танцаваць.** *(Яны сьмяюцца.)*

Пасьля доўгага перапынку ў расшыфроўках КДБ замест сварак і сьлёз зьяўляюцца сьмех і пацалункі.

Можа, гэтак бывала і раней, а Мэйлеру проста не паказалі, можа, назіраньне праз дзірачку ў сьцяне ў навагодні вечар вёў іншы чалавек — напрыклад, жанчына. Так ці інакш, але сьвяточны настрой на той Новы год быў і нават патрапіў у архіў КДБ.

Стужку расшыфроўвалі, пэўна, ужо пасьля Новага году, хаця ў КДБ у навагоднюю ноч, напэўна, працаваў апэратыўны дзяжурны. І ня толькі ў КДБ

і ракетных войсках. Паводле практыкі, якая засталася ад сталінскіх часоў, ва ўсіх органах улады, ад ЦК партыі і Савету Міністраў да райкамаў і райвыканкамаў, ад заводаў да калгасаў на сьвяточную ноч падвышалі пільнасьць — на казённых скураных канапах і драўляных лаўках варочаліся да раніцы адказныя дзяжурныя, а раптам дзе што здарыцца ці хто пазвоніць?

Так было і з Освальдам — хаця апэратыўнікі не працавалі зь ім 24 гадзіны запар, пільнасьць ніхто не адмяняў — да самага адʼезду.

І нават пасьля.



## Бомба для Хрушчова

2 студзеня Освальд напалохаў каманду вонкавага назіраньня КДБ — ён выйшаў з хаты са стрэльбай у руках і пайшоў на прыпынак тралейбуса (як высьветлілася, здаваць зброю ў паляўнічую краму, яму нават выплацілі 18 рублёў).

Гэта быў другі пярэпалах — першы здарыўся, калі супрацоўнік, які вёў назіраньне празь дзірачку ў сьцяне, заўважыў падазроныя дзеяньні. Освальд важдаўся з кавалкамі мэталу, нечым, падобным да пораху — так робяць выбуховыя прыстасаваньні. Так, прынамсі, расказалі Мэйлеру.

У КДБ падняўся вэрхал: у студзені Менск меўся адведаць Мікіта Хрушчоў, кіраўнік партыі і ўраду.

Супрацоўнікі КДБ не адказалі на пытаньне Мэйлера, ці яны заходзілі ў кватэру Освальдаў у адсутнасьць гаспадароў, каб праверыць падазрэньне. «Сьцяпан» сказаў, што пазьней яны здолелі дастаць усё са сьметніцы і правесьці інспэкцыю. Трывога

была падманнай, скрынка аказалася лухтой, нічым. Нават не самаробным фэервэркам.

**Дзёньнік ЛГО**
**4 студзеня 1962**

**Мяне выклікалі ў пашпартны стол, бо мой дазвол на жыхарства сёньня сканчаецца. Я маю цяпер амэрыканскі пашпарт, таму мне выдалі зусім новы дакумэнт, які называецца «Пашпарт для замежнікаў». Паколькі нам далі дазвол на выезд і ведаюць, што мы паедзем, тэрмін дзеяньня да 5 ліпеня 1962 году.**

Прыезду Хрушчова, калі меркаваць зь «Дзёньніку», Освальд не заўважыў.

А бязь дзёньніку мог зьвярнуць увагу, што ў суседні, добра бачны з балькону тэатар опэры і балету на аўтобусах масава прывозілі не зусім тэатральную публіку — там адбывалася сельскагаспадарчая нарада, на якой выступаў Хрушчоў. За бясьпеку кіраўніка партыі і ўраду адказваў КДБ, які, як і міліцыя, працаваў у рэжыме асаблівай пільнасьці. Назіраньне за Освальдам у той дзень, верагодна, узмацнілі.

Калі б Освальд нейкім чынам патрапіў у залю, ён бы мог на свае вушы пачуць, як партыя кіруе, напрыклад, навукай — рэфэрэнты назьбіралі Хрушчову прыкладаў з працы беларускіх біёлягаў. Хрушчоў сьмяшыў удзельнікаў нарады прыкладамі пра акадэмічнае разьвядзеньне ў Беларусі далёкаўсходняга коркавага дрэва «аксаміту» — яго любілі зайцы, а дасьледнікі засыналі ад салодкага паху, вось, маўляў, і ўся навука. А хто будзе разводзіць кукурузу квадратна-гнездавым мэтадам?



Але ўсесаюзную вядомасьць мясцовым біёлягам прынёс іншы дасьледнік з Акадэміі навук — ён патрапіў аж у выступ Хрушчова на Пленуме ЦК КПСС:

**У Інстытуце біялёгіі Акадэміі навук Беларускай ССР тав. Крапіўны А.П. абараніў вучоную ступень кандыдата біялягічных навук на тэму: «Экалёгія і гаспадарчае значэньне эўрапейскага белага бусла, чорнага бусла і звычайнай шэрай чаплі ў Беларусі».** *(Ажыўленьне ў залі, сьмех.)* **Я прызнаюся ў сваім невуцтве — чорнага бусла ня бачыў, ня ведаю, ці водзіцца ён у Беларусі. Веру гэтаму вучонаму: калі ён піша, відаць, чорны бусел ёсьць. Ня ведаю, магчыма, гэта дысэртацыя прынясе карысьць нашым праўнукам, але ня веру і ў гэта. Ва ўсялякім разе савецкія грошы ня трэба траціць на дасьледаваньні белага, чорнага буслоў і шэрай чаплі Беларусі.** *(Воплескі.)*

Пасьля выступаў была мастацкая частка — але калі б Освальд і патрапіў на канцэрт у тэатры, дык усё роўна не пачуў бы дыялёгу ва ўрадавай лёжы. Паводле намэнклятурнага фальклёру, у перапынку канцэрту Хрушчову чытаў вершы другі сакратар ЦК Машэраў. Першы сакратар Мазураў, якому толькі што моцна перапала за правал рэспубліканскіх паставак мяса ў саюзны фонд, сядзеў моўчкі. Хрушчоў павярнуўся да яго — а ты што надзьмуўся, засьпявай нам што-небудзь. Прыпеўкі ведаеш? Ведаю, Мікіта Сяргеевіч, але толькі пра кукурузу.

Амэрыканскі злак пасьля паездкі Хрушчова ў ЗША ахрысьцілі каралевай палёў, і новую манархію насаджалі ў СССР, як некалі скідалі старую. Народная творчасьць зрэагавала на працэс па-свойму:

Выйшла б замуж за Хрушчова,
Ды баялась аднаго:
Кажуць, быццам замест ...
Кукуруза ў яго!

У такую байку з амэрыканскім злакам нумар адзін аформіўся той вечар у любімым менскім тэатры Освальда.

Ня «Пікавая дама», канечне.

Рыфмы ня тыя.



## Пад бела-чорнымі крыламі

Да сярэдзіны лютага Освальд зробіць толькі адзін запіс у дзёньніку, пра халодную зіму. Пакінем яго ў шапцы-вушанцы грэцца каля чыгуннай батарэі цэнтральнага ацяпленьня і збочым ненадоўга, каб паглядзець, куды завяла сьцежка выпадковага мінака-біёляга, які патрапіў у выступ Хрушчова.

Аляксандар Крапіўны скончыў Харкаўскі ўнівэрсытэт і быў разьмеркаваны на працу ў Белавескую пушчу. Там ён і заняўся вывучэньнем колькасьці і харчаваньня галянастых птушак, як называюць буслоў і чапляў. Гадзінамі і днямі дзяжурыў ля гнёздаў, адбіраў і клясыфікаваў істотаў, якіх буслы прыносілі, потым скармліваў іх птушанятам. У дысэртацыі пазначана, што 28-гадовы аўтар дасьледаваў 30785 экзэмпляраў жывёлаў — харчовых аб’ектаў белага бусла, і 4248 — чорнага.

Ciconia ciconia, як зьвяртаюцца да буслоў на лаціне, птушка, мякка кажучы, не вэгетарыянская і мае адпаведнае мэню: жабкі, рыба, яшчаркі, зьмеі, сьлімакі, мышы, сусьлікі, птушаняты, у тым ліку

кураняты і качаняты — больш за паўсотні розных істотаў. Крапіўны перабраў рукамі не адзін цэнтнэр здабычы і, верагодна, часам пачуваўся як на мясабойні ці рыбакамбінаце. Такая была цана двух сказаў у дысэртацыі:

**... белы бусел эўрыфаг з ухілам да гэрпэтафагіі, энтамомафагіі і міяфагіі. Чорны бусел эўрыфаг з ухілам да гэрпэтафагіі і іхтыяфагіі.***

Праз дзесяцігодзьдзі спэцыялісты напішуць, што гэта была першая дысэртацыя па экалёгіі буслоў ня толькі ў савецкай навуцы — нічога падобнага не было і ў замежнай літаратуры.

Што Хрушчоў не разьбіраўся ў арніталёгіі, дзіўнага мала, а вось яго памочнікі былі халтуршчыкі — уставілі ў выступ факт чатырохгадовай даўніны. Дысэртацыю Крапіўны абараніў у лютым 1958-га, але адмовіўся ад прапановы застацца працаваць у Акадэміі Навук у Менску і паехаў у пэдінстытут у Віцебск, дзе давалі кватэру.

Там і прачытаў у газэтах, што першы сакратар ЦК верыць яму, што чорны бусел сапраўды існуе, але савецкія грошы на яго траціць ня варта. З камсамольскага ўзросту Крапіўны выйшаў, у партыю яшчэ не ўступіў, так што на палітычных сходах яго асабіста моцна не разьбіралі, тым больш, што дысэртацыю ён абараняў у акадэмічным інстытуце біялёгіі, і Хрушчоў згадваў прозьвішча менскага, а ня віцебскага дырэктара.

*У перакладзе гэта азначае, што белы бусел харчуецца ўсім, што знойдзе, але больш любіць зьмеек-яшчарак, павукоў- жужалёў, і ўвогуле ўсё мясное. А яго чорны сваяк, хаця таксама непераборлівы, аддае перавагу францускай кухні (жабкі, яшчаркі) і японскай (сырая рыба).



Калі, здавалася, горш ужо ня будзе, 22 сакавіка ў «Правде» зьяўляецца фэльетон «З пункту гледжаньня Бусла», дзе ўжо сьціралася розьніца паміж заалёгіяй і заафіліяй.

Белы Бусел піша Шэрай Чаплі:

**І чаго ён прычапіўся да галянастых дзікіх птушак?! Жывем мы мірна, плодзімся мала, людзям жыць не перашкаджаем. Прывыклі абыходзіцца без чалавека. Ужо калі палюбіў птушку, любі свойскую. Пад нашым дубам — птушатнік. Там і куры, і гусі, і качкі. Ім трэба дагляд. Але Крапіўны на свойскую птушку — нуль увагі. Усё да нас, дзікіх, чэпіцца.**

Праз паўтара месяца, 10 траўня 1962 году ў рубрыцы «Па матэрыялах «Правды» чытачы пабачылі ў лісьце з Акадэміі навук Беларусі знаёмыя словы — крытыка прызнаная правільнай.

**Дырэкцыя і партыйная арганізацыя інстытуту прынялі меры для паляпшэньня дзейнасьці інстытуту і яго навуковай рады ў справе абароны дысэртацыяў. Перагледжаная тэматыка навукова-дасьледнай працы і асьпіранцкіх тэмаў з мэтай набліжэньня іх да патрабаваньняў і запытаў народнай гаспадаркі. Прынятая пастанова аб рэарганізацыі навуковай рады і абнаўленьні яе складу.**

Крапіўнага выклікалі ў вышэйшую атэстацыйную камісію, якая прысуджала навуковыя званьні — але годнасьці кандыдата навук не пазбавілі. Часы ўсё ж былі ня сталінскія. Дый не арніталёгія раздражніла партыйнае начальства, абурыла, хутчэй за ўсё, фармулёўка тэмы пра гаспадарчае значэньне

буслоў і чапляў. Справа была ня проста ў каньюнктурнай назьве.*

Каньюнктура была нормай, але назва працы Крапіўнага выглядала горш за прыстасаванства — яна гучала як пародыя, прычым пародыя на палітыку партыі і ўраду ў сельскай гаспадарцы. Не дапамагло і тое, што заалёгія сапраўды ведала пра гаспадарчае значэньне бусла — пры нашэсьці саранчы буслы вылятаюць на палі і трушчаць шкоднікаў ураджаю, як пішуць у навуковых тэкстах, «у велізарнай колькасьці». Крапіўны прыйшоў да высновы, што ва ўмовах Беларусі гаспадарчае значэньне птушкі хутчэй адмоўнае — яны зьнішчаюць такую колькасьць земнаводных, што разбураюць экалёгію вадаёмаў.

У наступным годзе Крапіўны зьехаў зь Беларусі ў Харкаў, дзе ня толькі друкаваў манаграфіі, падручнікі пра зоапсыхалёгію і біяэкалёгію, але й вывучаў паводзіны івалгі, сьпевы валасянак і пеначак, стаў доктарам навук, прафэсарам, прыяжджаў на навуковую канфэрэнцыю ў Менск, усё жыцьцё называў сябе на беларускі лад Алесем, аж пакуль ня выкінуўся з вакна ў 1990-м, не перанёсшы гібелі двух сваіх студэнтаў падчас палявой практыкі.

Пры жыцьці пабачыла сьвет толькі адна яго ненавуковая кніга, якая называлася «Калі няма страху».

Кніга была не пра людзей.

*Праз месяц пасьля прыезду Освальда ў Менск у газэтах друкавалася абвестка пра публічную абарону дысэртацыі на атрыманьне вучонай ступені доктара гістарычных навук Г.М. Ліўшыцам на тэму, не дасьледаваную ні Флавіем, ні Тамашом Аквінскім, ні айцамі царквы: «Клясавая барацьба ў Юдэі і паўстаньне супраць Рыму».



## Каго бусел прынёс

У беларускай традыцыі дзяцей прыносіць бусел. У амэрыканскай — таксама бусел. Хаця, напэўна, ня ўзімку.

**Дзёньнік ЛГО**
**15 лютага 1962**

**Марына зьбіраецца нарадзіць 1 сакавіка.**
**Сьвітанак. Марына будзіць. Прыйшоў час. У 9:00 прыяжджаем у шпіталь, пакідаю яе ў руках санітарак, іду на працу. У 10:00 Марына нараджае дзяўчынку. Мне паведамляюць навіну а 5-й вечара, калі я прыходжу ў шпіталь пасьля працы. Мы хацелі хлопчыка. Марына адчувае сябе добра, дзяўчынка таксама.**

Рэканструкцыя Мэйлера падае падзеі крыху іначай і з большай рэзкасьцю. Пасьля мітусьні і збораў з дому выйшлі каля 09:00, доўга не маглі злавіць таксі і ў выніку паехалі ў 3-ю клінічную бальніцу на аўтобусе. Освальд яшчэ не даехаў да працы, як

сяброўкі Марыны ўжо пазванілі на завод і на працоўным месцы ён ужо атрымліваў віншаваньні.

Марына ляжала тыдзень — і нататкі, якімі абменьваліся муж з жонкай, урэшце патрапілі ў Камісію Ўорэна і сталі афіцыйным матэрыялам сьледзтва. Цяпер гэты прыватны фрагмэнт менскага жыцьця выстаўлены на агульны агляд.

**15 лютага 1962**

**Дарагая Марына,**
**Мы з табой зусім не чакалі дачкі, але я вельмі рады ўсё роўна. Малайчына! Як ты здолела так хутка нарадзіць? Малайчына! Ізноў малайчына! Калі табе што трэба, кажы любое жаданьне, мы з табой цалкам гатовыя да Джун Марыны Осwальд.**
**Алек**

**Дарагі Алік!**
**Вось ты й бацька. Нават добра, што ў нас дзяўчынка.**
**Роды прайшлі вельмі добра і хутка. А 10-й гадзіне нарадзілася Джун. Зашылі толькі чатыры трэшчынкі звонку. Я і сама не чакала, што ўсё будзе так хутка. Увечары, верагодна, да цябе прыйдзе цётка Валя. Яна ўжо была ў мяне сёньня. Сёньня нічога не прынось. Заўтра прынясі толькі кефір і салодкае. Шакаляд мне ўжо нельга. Астатняе ты ведаеш.**
**Цалую, Марына**

**Дарагая!**
**Як ты жывеш? Кефіру няма. Што табе трэба? Ты ўжо карміла дзіця? Гэтыя фотакарткі аддай**



**цётцы Валі, у нас яшчэ ёсьць дома. Хто табе званіў сёньня?**
**Кахаю цябе.**
**Алек**

**18 лютага 1962**

**Дарагая Марына,**
**Цётка Валя і дзядзька Ільля былі сёньня ў мяне раніцай. Яна адведае цябе заўтра а 2-й гадзіне. Я сказаў, што трэба купіць. Я і Эрык учора былі ў Зігераў да 24-х гадзінаў. Як там яна, яна есьць, так?**
**Што табе трэба? Ты можаш хадзіць? Інэса была ў цябе? Джун яшчэ чырвоная? Ты ведаеш, калі цётка Валя прыйдзе заўтра, перадай фатаграфіі ёй. Сёньня цётка Люба да цябе ідзе.**
**Ну, пакуль.**
**Твой муж Алек**
**P.S. Я заўтра не прыйду, добра?**

**20 лютага 1962**

**Хэлоў, тата!**
**Алек, я ня думала, што будзе так цяжка даглядаць дзіцё. Джун зьядае ўсё чыста. Але малако прыбывае перад кожным кармленьнем, і яго трэба адсмоктваць. Гэта так балюча, што лепш бы я нарадзіла яшчэ адно дзіцё. Дарагі Алек, неадкладна, адразу сёньня купі і перадай мне грудны адсос, і каб гумовая груша была цьвёрдая, ня мяккая.**
**Алек, я стала так дрэнна выглядаць, што ты мяне не пазнаеш. Гэта таму, што я баюся, што Джун не бярэ грудзі. Таксама, тут не даюць паспаць колькі трэба — толькі з 2 да 5 раніцы.**

коўвалі навіну, што прэзыдэнт будзе праяжджаць пад іх вокнамі. Як Освальд пісаў брату Робэрту:

**Заўсёды лепш скарыстаць магчымасьць, калі яна табе надарылася.**

Надарылася 22.11.1963.
У 12:30 скарыстаў.

Магчымасьці, як матылькі, могуць зьявіцца ня толькі нечакана, але й зь нечаканага боку: праз два дні, 24.11.1963, калі Освальда пераводзілі з паліцэйскага ўчастку ў турму, у натоўпе рэпарцёраў з кольтам у руках чакаў мясцовы жыхар Джэк Рубі, які вырашыў забіць Освальда, бо надарыўся такі момант.

У 11:21 магчымасьць была скарыстаная.

Мэйлер хацеў назваць кнігу «Амэрыканская трагедыя» — калі б ня Драйзэр, які зрабіў гэта на 70 гадоў раней. Загаловак «Амэрыканская мара» Мэйлер скарыстаў для свайго чацьвёртага раману.

Дастаеўскі вучыў, што «чалавек ёсьць таямніца». Чым было шматстаронкавае дасьледаваньне Мэйлера, як не разгадваньнем, пошукам адказу, спробай вытлумачыць абсурднасьць, якая раптам так дыспрапарцыйна перакуліла час? І «Гісторыя Освальда» атрымала падзагаловак: «Амэрыканская таямніца».

Прыметнікі «савецкая», «расейская», «беларуская» ці «менская» сапраўды не пасавалі.

Амаль не пасавалі.



## Освальд — чытач «Гісторыі Освальда»*

Освальд мог ведаць імя Мэйлера. Яго першая кніга «Голыя і мёртвыя» выйшла ў 1948-м і карысталася велізарнай папулярнасьцю. Падзеі, якія там апісаныя, адбываюцца на Ціхім акіяне — там, дзе служыў марскі пехацінец Освальд.

Як бы Освальд, калі б яго не забілі, успрыняў кнігу Мэйлера пра сябе, пра падслухоўваньне КДБ, пра сяброў, сяброваак і жонку, пра сваё жыцьцё, вывернутае навонкі?.. І што бы ўдакладніў, што аспрэчыў? Ці адразу зарадзіў бы свой карабін Манліхер-Каркан і першым рэйсам вылецеў з Даласу ў Нью Ёрк — хаця не, са зброяй у самалёт ня пусьцяць, значыць, хутчэй, завёў бы свой аўтамабіль і паехаў, але не ў Нью Ёрк, і не таму, што задалёка, бо што такое паўтары тысячы міляў для 55-гадовага мужчыны на добрым аўто па добрай дарозе,

*Слова «гісторыя» ў назьве ўжываецца ў значэньні «аповед», «жыцьцяпіс», па-ангельску — ня «history», а «story».

а ў адвакацкую кантору — судзіцца з аўтарам, выдавецтвам і КДБ. Нават прасьцей — нікуды б не паехаў, а адвакаты самі прыйшлі б. Бо калі б яго не забілі і справа дайшла да суду і нават да сьмяротнага выраку, амэрыканскія юрысты адцягваюць выкананьне на гады.

Таксама верагодна, што за гэты час ён сам напісаў і апублікаваў бы свае мэмуары, і, можа, нават прадаў правы на экранізацыю ў Галівуд. І Мэйлер не паехаў бы ў Менск, і не дамовіўся б з КДБ, і не раскрыліся б такім чынам дагэтуль страшна сакрэтныя таямніцы мэтадаў апэратыўнай працы органаў у Менску, і не было б — ды мала чаго не было б.

Адзін зь вядомых заходніх гістарыёграфаў* сто гадоў таму так апісаў праблему прычыннасьці гісторыі: чалавек выпіў лішні кілішак, сеў за руль аўтамабіля са слабымі тармазамі і, калі паварочваў на неасьветленым скрыжаваньні, зьбіў чалавека, які выскачыў па цыгарэты.

Хто вінаваты ў сьмерці?

Кіроўца, які выпіў лішку?

Мэханік, які не адрэгуляваў тармазы?

Мясцовыя ўлады, якія не адрамантавалі ліхтар?

Курэц, які перабягаў вуліцу, каб задаволіць шкодную звычку? Яго сяброўка, якая забрала сабе апошнюю цыгарэту?

Калі ведаеш фінал гісторыі Освальда, падобныя пытаньні можна задаваць яшчэ сто гадоў.

Але адно пытаньне ўсё ж нельга не задаць: які уплыў меў менскі пэрыяд жыцьця Освальда на ягоны ўчынак у Даласе?

*Юджын Кар. Што такое гісторыя?



Менскія знаёмыя Освальда, уключна зь яго пастухамі з КДБ, адзінадушна лічылі, што Освальд ня мог быць забойцам Кенэдзі. Так знаёмыя кажуць пра амаль усіх забойцаў: быў ціхі хлопчык у школе, прыстойныя бацькі, дапамагаў суседзям, меў добрыя характарыстыкі, мы разам гулялі ў парку...

Гэта псыхалягічна просты і пашыраны фэномэн — абарончая рэакцыя ад нечаканага выкіду абсурду.

У менскім асяродку разыходзяцца хіба толькі ў прычынах, чаму ня мог: частка, уключна з КДБ, лічыла яго прымітыўным, неразьвітым, лянівым няздарам, іншыя — інтэлігентным, адукаваным, неардынарным маладым чалавекам.

У 1963-64 гадах Камісія Ўорэна карпатліва сабрала неверагодную колькасьць інфармацыі пра жыцьцё Освальда, ад здымкаў немаўляці ў сямейным альбоме да здымку трупа на стале паталягаанатама, ад ацэнак у трапнасьці стральбы ад яго сяржанта да апошняй старонкі нататніка, ад сьведчаньняў маці, брата і жонкі да паказаньняў асобаў, якія сустракаліся зь ім толькі аднойчы.

Яшчэ праз трыццаць гадоў, паводле пастановы Кангрэсу ЗША, Рада ў справе вывучэньня дакумэнтаў забойства рассакрэціла дадатковыя дзясяткі тысячаў папераў і ў 1998 годзе зрабіла ўсе чатыры мільёны дакумэнтаў даступнымі любому дасьледніку.

Рассьледаваньне забойства Кенэдзі — самая падрабязная і самая вялікая ў гісторыі чалавецтва сьледчая справа.

Яе высновы вядомыя — прэзыдэнта забіў Освальд, і ён дзейнічаў адзін.

Літаратурнае сьледзтва, якое правёў Мэйлер,

мела справу з дасьледаваньнем асобы Освальда і пошукам адказу на пытаньні, ня хто і як забіў прэзыдэнта, а — чаму.

Але першае дасьледаваньне ўнутранага сьвету Освальда зьявілася задоўга да Мэйлера, і задоўга да «Справы 34451», заведзенай КДБ: «Справа №26996» пабачыла сьвет у траўні 1953-га, і яе аўтарам быў псыхіятар.

Першы канфлікт з правапарадкам Освальд меў у Нью Ёрку ва ўзросьце 13-ці гадоў: маці была нядзельная справіцца з сынам, які прагульваў школу, і 16 красавіка яго зьмясьцілі ў «Юнацкі дом», дзе зь цяжкімі падлеткамі працавалі лекары. 1 траўня Освальда аглядаў галоўны псыхіятар Рэнатус Гартагз, які пазьней прысьвяціў яму сэмінарскія заняткі, дзе мэдыкі абмяркоўвалі незвычайных пацыентаў.

Гартагз пісаў:

**Гэта напружаны, адчужаны і ўхілісты хлопчык, які надзвычай ня любіць гаварыць пра сябе і свае пачуцьці. Яму падабаецца ствараць уражаньне, што яго не кранае меркаваньне іншых людзей, каб ад яго адчапіліся і ня трэба было прыкладаць намаганьні да гутаркі. Перадолець эмацыйную сьцяну, за якой хаваецца гэты хлопчык, было цяжка, але ён даў дастаткова ключоў, якія дазволілі разгледзець напружаны неспакой, сарамлівасьць, пачуцьцё няўклюднасьці і неўладкаванасьці як галоўныя прычыны адчужанасьці і звычак самотніка. Лі сказаў: «Я не хачу мець сябра і не хачу гаварыць зь людзьмі». Ён сам называе сябе ўпартым і прызнае, што любіць казаць «не».**

Гартагз выводзіць прычыну такога стану зь сямейнай сытуацыі: бацькі няма, маці занятая сама сабой, браты яго ігнаруюць, у школе ў Нью Ёрку да падлетка з паўднёвым акцэнтам ставяцца як да правінцыяла.

**Лі жыве яркімі фантазіямі, якія круцяцца вакол тэмаў усемагутнасьці і ўлады, якімі ён спрабуе кампэнсаваць свае недахопы і фрустрацыі. Яму не падабаецца ні з кім быць разам, і на пытаньне, якой кампаніі — дзяўчат ці хлопцаў — ён аддаў бы перавагу, ён адказаў «Мне не падабаюцца ўсе».**

Гартагз адзначае «моцныя нэгатывісцкія рысы», але як клінічны псыхапатоляг ня лічыць іх хваробай: «мэнтальны псыхозны зьмест» і «псыхічныя мэнтальныя зьмены» ім адмаўляюцца. Тым ня менш, ён ставіць дыягназ «асоба характэранага тыпу ўзрушэньняў з шызоіднымі рысамі і пасіўна-агрэсіўнымі тэндэнцыямі» і рэкамэндуе выпрабавальны пэрыяд пад наглядам дзіцячага псыхіятра.

У дзень забойства Кенэдзі да Гартагза зьвярнулася тэлебачаньне па камэнтар, хто, з пункту гледжаньня псыхіятрыі, мог забіць прэзыдэнта.

Гартагз сказаў:

**Вельмі верагодна гэта мэнтальна няўстойлівая асоба, якая мае асабістую непрыязь да людзей ва ўладзе, і, вельмі верагодна, гэта чалавек, які ў спробе пераадолець сваю нязначнасьць і бездапаможнасьць паспрабуе зьдзейсьніць учынак, які напалохае іншых, які страсяне сьвет, які прымусіць іншых людзей адчуць сябе неабаро-**

**ненымі, каб такім чынам пазбавіцца ад уласнага пачуцьця неабароненасьці.***

Падлеткаў (дый дарослых), якіх можна апісаць падобнымі фармулёўкамі — процьма. Рэч ня ў тым, што ня ўсе потым робяцца злачынцамі — а хутчэй у тым, як складваюцца іх абставіны і магчымасьці, што зьмякчае, а што ўзмацняе і памнажае «нэгатывісцкія» рысы аж да прабаднога хаосу.

Вось што Мэйлер адказаў на маё пытаньне пра сувязь паміж Менскам пачатку 1960-х і Даласам 22 лістапада 1963 году:

**— Я думаю, што трэба пайсьці значна глыбей. Освальд выехаў зь Менску і вярнуўся ў Амэрыку. І аднойчы ён сказаў сабе: я адзіны чалавек, які жыў параўнаўча каля самага дна, у сацыяльных нізах у абедзьвюх краінах. Я быў рабочым нізкага ўзроўню ў Савецкім Саюзе і я рабочы нізкага ўзроўню тут, у Амэрыцы. І я ведаю абедзьве краіны ад нізу да верху так, як ніхто болей ня ведае. Ніхто ў сьвеце ня ведае таго, што ведаю я. І гэта было сапраўды так. Адсюль прыйшло пачуцьцё сваёй велізарнай значнасьці.**

Такі эфэкт меў на яго Менск.

Першапачаткова Мэйлер хацеў назваць сваю кнігу «Освальд у Менску».

*Гартагз нярэдка выступаў у ролі экспэрта на тэлебачаньні, і ў той дзень ні журналісты ня ведалі, ні ён сам ня памятаў, што Освальд быў яго пацыентам. Цікава, як ацаніў бы амэрыканскі доктар высновы менскага прафэсара мэдыцыны Эрнста Цітаўца, якімі той завяршае праз паўстагодзьдзя сваю кнігу ўспамінаў:

«Ці быў Освальд шчасьлівым чалавекам? Калі шчасьце азначае здольнасьць свабодна выбраць жыцьцёвую місію і працаваць дзеля яе ажыцьцяўленьня, ён быў шчасьлівы. Яго місія была ідэалістычнай — паспрабаваць зрабіць сваю краіну лепшай. Надзіва адважна і мэтанакіравана вёў яго гэты ідэал. Ён лічыў, што ў Атэнскай сыстэме ён знайшоў трэці шлях па-за пасткамі камунізму і капіталізму. Гэта быў адказ, да якога ён прыйшоў як праз наўпроставы досьвед, гэтак і праз старанныя тэарэтычныя пошукі. Жыцьцё яго было поўнае прыгодаў і намаганьняў, якія ўсе былі скіраваныя да гэтай ідэалістычнай мэты. Ён бачыў сьвет, сустракаўся зь цікавымі людзьмі і зрабіў свае бясстрашныя высновы пра магчымасьць уяўленьня сьвету па-за фізычнымі, інтэлектуальнымі, палітычнымі і нават асабістымі рамкамі халоднай вайны. Ён быў шчасьлівы чалавек».



## Цягнік, які не спазьніўся

Я пайшоў у першы кляс праз пару месяцаў пасьля таго, як цягнік з Освальдам, які вяртаўся ў Амэрыку пасьля двух з паловай гадоў жыцьця ў Менску, пастаяў некалькі гадзінаў недалёка ад нашага дому ў Берасьці, пакуль мянялі колы, сьвіснуў на разьвітаньне і пагрукатаў празь мяжу.

Мы зь сябрамі падкладалі на рэйкі манэты — для цягніка пяць капеек былі ня больш адчувальныя, чым матылёк, які сеў на бліскучую адпаліраваную сталь, атрымлівалася тонкая авальная бляха, залаціста-жоўтая, з крылападобнымі вострымі краямі, за якую ўжо нічога нельга было купіць і, праўду кажучы, якой асабліва нічога нельга было й зрабіць. Пятак аніяк не ўплываў і на чыгуначны рух.*

*Прыхільнікі «эфэкту матылька» могуць запярэчыць, напрыклад, што з таго расьціснутага пятака пачалася інфляцыя ці дэфляцыя, якая вядома чым скончылася ў 1991-м. Тэрмін «эфэкт матылька» зрабіў папулярным дасьледнік тэорыі хаосу Эдвард Лорэнц. У 1961 годзе ён рабіў матэматычныя разьлікі мадэлі надвор'я і нязначна, на адну дзесяцітысячную долю, зьмяніў адзін складнік у формуле — і раптам атрымаў радыкальна іншы прагноз. На гэтымназіраньні было пабудаванае паведамленьне на адной амэрыканскай мэтэаралягічнай канфэрэнцыі: «Ці выклікае ўзмах крылцаў матылька ў Бразіліі тарнада ў Тэхасе?»



Пасьля 12:30 у суботу 22 лістапада 1963 году ў сьвеце стала менш сьмеху, больш сьлёз. Але ўплыў стрэлаў у Даласе на палітычную гісторыю быў неістотны.

Ва ўнутранай палітыцы Ліндан Джонсан працягваў рэформы, якія Дэмакратычная партыя ЗША пачала рэалізоўваць пры Кенэдзі: пашырэньне грамадзянскіх правоў, канец расавай сэгрэгацыі, падтрымка корпусу міру, які даў магчымасьць ідэалістычнай моладзі паспрабаваць зьмяніць да лепшага жыцьцё ў краінах трэцяга сьвету і больш уведаць пра сьвет самім.

Удзел амэрыканцаў у віетнамскім канфлікце пачаў драматычна нарастаць яшчэ пры Кенэдзі і перарос у поўнамаштабную вайну пасьля яго, дагэтуль дзейнічае падпісаная ім дамова аб забароне ядзерных выпрабаваньняў у атмасфэры, космасе і пад вадой (многія лічаць гэта найважнейшым дасягненьнем яго тысячы дзён у Белым доме), словы Кенэдзі ў Бэрліне пасьля ўзьвядзеньня сьцяны («Ich bin ein Berliner! — Я — бэрлінец!») паўтаралі наступныя прэзыдэнты, пакуль сьцяна не разваілася ўшчэнт. Палітыка ў адносінах да Кубы засталася нязьменнай цягам наступнага паўстагодзьдзя, урокі карыбскага крызісу засвоілі абодва бакі.

Празь пяць з паловай гадоў пасьля забойства прэзыдэнта Амэрыка выканала задачу палёту на Месяц, якую паставіў Кенэдзі.

Самыя моцныя рэжымы пэрсанальнай улады

рассыпаюцца пасьля сьмерці дыктатараў, іх помнікі трушчаць, а імёны ганяць. Дэмакратыі па сваёй прыродзе гістарычна сэйсмастойкія. Невядома, канечне, што б яшчэ зрабіў Кенэдзі для Амэрыкі і сьвету, але гэта так і застанецца невядомым.

Заўважныя зьмены адбыліся ў працы прэзыдэнцкай службы аховы: перасталі загадзя друкаваць маршруты паездак і агучваць іх даты, адкрытыя кабрыялеты былі выведзеныя з парку прэзыдэнцкіх машын.

Наступныя паўстагодзьдзя ляўры Освальда не давалі спакою яшчэ тузіну асобаў, а скончалася ўсё, як для матылькоў на рэйках: іх альбо лавілі і саджалі за краты, альбо яны гінулі самі. Больш амэрыканскіх прэзыдэнтаў не забівалі, толькі псыхічна хворы нападнік здолеў параніць прэзыдэнта Рэйгана ў 1981 годзе.

Чалавечая трагедыя, якая разыгралася 22 лістапада 1963 году ў Даласе, абарвала жыцьці адных людзей, непазнавальна зьмяніла лёсы іншых, але ня мела гістарычнага вымярэньня.

Освальд зрабіў ня большы ўплыў на ходу падзеяў XX стагодзьдзя, чым матылёк пад коламі цягніка на яго прыбыцьцё на станцыю паводле раскладу.

Рэй Брэдбэры, хоць і прычыніўся да нараджэньня матыльковай тэорыі хаосу, усё ж пісаў фантастыку.

А лепідаптэралёгія — навука.



## Хоць на Месяц узвый

У менскую вандроўку па сьлядах Освальда варта было б узяць кнігу журналісткі Прысцылы МакМілан «Марына і Лі» — 527-старонкавы том у цьвёрдай вокладцы, які выйшаў у 1977 годзе.

У 1959-м МакМілан працавала ў Маскве як няштатны рэпарцёр на амэрыканскі газэтны сындыкат, жыла, як і Освальд, у гатэлі «Мэтраполь» і па падказцы знаёмага з амбасады пайшла браць інтэрвію ў перабежчыка. Освальд пагадзіўся, надзеў касьцюм з гальштукам, прыйшоў да яе ў нумар і адказваў на ўсе пытаньні. Ён уразіў яе тым, што хваліўся першым самастойным дзеяньнем у Маскве — адзін прайшоў да ўнівэрмагу «Дзіцячы сьвет», купіў марозіва і вярнуўся.

Яна адзначыла дзіўнае спалучэньне інфантыльнасьці і рашучасьці — усё ж далёка ня кожны быў здольны на такі крок, як адмова ад грамадзянства і пераезд у чужую невядомую краіну.

Потым яна напіша:

**Калі наша гутарка падыходзіла да канца, у мяне ўзьнікла жахлівае адчуваньне марнасьці. Яго чакала, я была ўпэўненая, расчараваньне. Калі ён сыходзіў, я запрасіла заходзіць. Расейцы мяне папярэдзілі, сказаў Освальд, каб я не размаўляў з амэрыканцамі. Але перад тым, як зачыніць дзьверы, ён паабяцаў не рабіць рашучых крокаў, не паведаміўшы мне.**

**Праз два дні я пайшла на другі паверх і спытала ў дзяжурнай, дзе Освальд. Ён зьехаў, адказала яна.**

Пасьля забойства МакМілан здолела пабудаваць даверлівыя адносіны з удавой Освальда і ў 1964-65 гадах запісала больш за 700 старонак інтэрвію зь ёй. Яна называла Марыну «вельмі сумленным чалавекам», які гаворыць праўду.

«Марына і Лі» стала клясыкай, яе высока ацаніў Мэйлер, які, аднак, адразу заявіў, што не з усім пагаджаецца, і патлумачыў — іначай навошта яму было б пісаць сваю кнігу.

Сапраўды.

Увогуле, калі паставіць за мэту захапіць з сабой усе дакумэнты, прысьвечаныя Освальду і забойству Кенэдзі, дык каб цягнуць 18 тон паперы, запатрабуецца воз і пара добрых коней, напрыклад, выведзенай у 1950-я пароды «савецкі цяжкавоз».

Аднак кнігі, прысьвечаныя менскаму пэрыяду, можна і ў руках панесьці, што зразумела: МакМілан па сьвежых сьлядах распытала Марыну, апроч Мэйлера ніхто ня меў доступу да дакумэнтаў КДБ і большасьці менскіх знаёмых Освальда, а зь іх толькі адзін Эрнст Цітавец напісаў свае ўспаміны.

Але адна амэрыканская кніга пра Освальда вылучаецца — па-першае, таму што была напісаная яшчэ да таго, як Освальд стаў пасьмяротна ўсясьветна знакамітым, а па-другое, таму, што ўгадала будучыню освальдазнаўства.



Кніга, дзе прататыпам быў Освальд, называлася «Ідэальны ваяр». Яе напісаў сябра Освальда па службе ў марской пяхоце нехта Керы Торнлі.

Торнлі вонкава быў падобны да Освальда і потым шмат гадоў у шматлікіх інтэрвію ён заяўляў, што яны з Освальдам былі «прадуктамі генэтычных выпрабаваньняў, якія рабіла сэкта эўгенікаў, нацысцкіх прыхільнікаў з таварыства «Вірыл», што ў яго і Освальда пры нараджэньні ўжывілі прыстасаваньні для падслухоўваньня, за імі сачылі і маніпулявалі зь дзяцінства ўсемагутныя кіраўнікі «Вірылу».

Торнлі быў ахвярай неўміручай традыцыі, якая пачалася, верагодна, неўзабаве пасьля першай размовы Евы са Зьміем, і ня спыніцца, пакуль будзе існаваць чалавецтва. Гэта — пошук тайных спружынаў там, дзе іх няма, сакрэтных змоваў там, дзе іх не існавала, пабудова пірамідаў аргумэнтацыі, якія ні на што не абапіраюцца, непрыняцьце фактаў пасьля таго, як яны былі спраўджаныя належным чынам.

Мяжа, дзе здаровы скепсіс ператвараецца ў псыхічную хваробу, даволі шырокая. Часам вельмі. І, як у выпадку з гісторыяй Освальда, можа доўжыцца дзесяцігодзьдзямі.

У Беларусі, напрыклад, пасьля выхаду кнігі Мэйлера крытыкі як зь лягеру дэмакратычнай апазыцыі, гэтак і з афіцыёзу будуць абвінавачваць Станіслава Шушкевіча ў супрацоўніцтве з КДБ.

Так, галоўны рэдактар газэты адміністрацыі прэзыдэнта заявіць:

**Ёсьць яшчэ адна цікавая рэч: у Менск з ЗША прыехаў Лі Гарві Освальд. Ня ведаю, навошта яго сюды прыслалі, але ўвесь час яго вучылі страляць. І настаўнікам расейскай мовы ў яго быў Шушкевіч, паверце мне, КДБ нічога не рабіла бяз сэнсу. Пра тое, каб яго вучыў Шушкевіч, было вырашана ў Маскве, на Лубянцы, Станіслаў Станіслававіч многа ведае, але ня скажа.***

Наконт таго, што КДБ нічога не рабіў «бяз сэнсу», спрачацца сэнсу ня мае, кожнаму сваё.

Мае сэнс нагадаць, што ў 1960-м, пасьля хрушчоўскага выкрыцьця сталінскіх злачынстваў, усю ўладу забрала партыйная намэнклятура, якая ў мэтах сваёй бясьпекі і пад лёзунгам аднаўленьня «ленінскіх прынцыпаў сацыялістычнай законнасьці» значна абмежавала ўсемагутныя органы. І сакратар парткаму, які на буйным заводзе быў фігурай ня менш важнай за дырэктара, мог арганізаваць урокі расейскай мовы без пэрсанальных падказак з Лубянкі.

Прэзыдэнцкі рэдактар таксама закідае Станіславу Шушкевічу рэпрэсаванага бацьку — як так, чаму сына ворага народу падпусьцілі да сакрэтнай працы.

Таксама варта нагадаць — афіцыйнае стаўленьне да ахвяраў рэпрэсіяў і іх сваякоў было ў тыя некалькі гадоў антысталінісцкай адлігі хутчэй спрыяльным — іх аднаўлялі ў партыі, а заслужаных

*Зрабаваны народ. Размовы зь беларускімі інтэлектуаламі. Гутарка з П. Якубовічам. Гарадзенская бібліятэка, 2009.



чэкістаў-ардэнаносцаў, наадварот, выключалі. Ішла выбарачная люстрацыя.*

Недарэчнае таксама сьцьверджаньне, быццам Освальда «ўвесь час вучылі страляць» — насамрэч вядома толькі пра два стрэлы, якія зрабіў Освальд на паляваньні ў Беларусі — і абодва міма, і аднойчы паўдзельнічаў у стральбе зь пісталета ў заводзкім клюбе ДТСААФ — «на троечку», як ацаніў інструктар (што ні пра што ня сьведчыць — вядомая гісторыя аднаго шматразовага чэмпіёна сьвету па стральбе зь пісталета, якога абрабавалі дома. Ён страляў у рабаўнікоў некалькі разоў з блізкай дыстанцыі і ні разу не патрапіў).

Увогуле, колькасьць журналісцкіх публікацыяў і ўспамінаў пра Освальда ў беларускім і расейскім друку (пра ананімных віртуалаў у Інтэрнэце лепш памаўчаць) вядзецца на сотні. І цяжка знайсьці хоць адну, дзе б не было фактычных памылак, ня кажучы ўжо пра дзікія дапушчэньні і фантастычныя высновы.

Ня ўсё яшчэ вычарпана, канечне. У Менску Освальд мог сустракацца і, зусім магчыма, бачыўся на вуліцах зь людзьмі, дасьведчанымі ў тэрактах. Напрыклад, з партызанкай Марыяй Осіпавай,

*У 1958-м быў звольнены з пасады чэкіст прызыву 1931 году, намесьнік старшыні КДБ Міхаіл Дзечка — «паводле фактаў, якія дыскрэдытуюць высокае званьне афіцэра» за тое, як сказана ў пастанове бюро ЦК КПБ, што «браў удзел у неабгрунтаваных арыштах савецкіх грамадзянаў і дапускаў грубыя парушэньні сацзаконнасьці пры дасьледаваньні крымінальных справаў». З 19 гадоў ён быў катам Мазыршчыны, пасьля вайны даслужыўся да міністра. Адну такую гісторыю пра ката Меншчыны Гарбанеўскага я падрабязна апісаў у кнізе «За кіпучай чэкісцкай работай». Пакараньні былі сьмешныя — адбіралі партбілет, але нікога не судзілі і не пасадзілі.

арганізатаркай зьнішчэньня цывільнага кіраўніка нямецкай улады ў акупаванай Беларусі Вільгельма Кубэ, што справакавала масавыя расстрэлы мірнага насельніцтва. Ці са старшынём прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Сяргеем Прытыцкім, што, як герой «Бесаў», па заданьні сваёй арганізацыі спрабаваў забіць сьведку на судзе.

Але найбольш блізкі Освальду ўзростам, поглядамі і маштабам зьдзейсьненага злачынства быў мясцовы сучасьнік Дастаеўскага Ігнат Грынявіцкі, які забіў Аляксандра Другога, самага лібэральнага расейскага цара, які вызваліў рабоў у Расеі, што амаль у той самы час зрабіў амэрыканскі прэзыдэнт Эйб Лінкальн.

І як тут абмінуць паралелі забойства Лінкальна і Кенэдзі. Першы быў абраны ў Кангрэс ў 1846-м, другі — ў 1946-м. Першы стаў прэзыдэнтам ў 1860-м, другі — у 1960-м, імёны абодвух па-ангельску налічваюць па сем літараў, абодвух забілі ў пятніцу, абодвух стрэлам у галаву, абодвух ззаду, побач з абодвума былі іх жонкі, Лінкальн быў забіты ў «Тэатры Форда», Кенэдзі ў аўтамабілі «Форд» мадэлі «Лінкальн», абодва наступныя прэзыдэнты мелі прозьвішча Джонсан і абодва былі з поўдня, першы Джонсан нарадзіўся ў 1808-м, другі ў 1908-м — але гэта толькі кветачкі.

Забойца Лінкальна Джон Вілкес Бут нарадзіўся ў 1839-м, Лі Гарві Освальд — у 1939-м, абодва былі з поўдня, у абодвух трохслоўнае імя, у абодвух імёны па-ангельску налічваюць 15 літараў, абодва былі забітыя перад судом...

Гэты сьпіс падабенстваў зьявіўся неўзабаве пасьля забойства Кенэдзі і паўстагодзьдзя зачароўваў амэрыканскую публіку, якая не давала веры



скептыкам, якія сьцьвярджалі, што нічога неверагоднага з пункту гледжаньня статыстыкі тут няма, што адрозьненьняў нашмат больш, чым супадзеньняў, што некаторыя зьвесткі недакладныя (Бут нарадзіўся на год раней), паралелі нацягнутыя...*

Неяк, адразу пасьля выхаду кнігі Мэйлера, я спытаўся ў аднаго менскага літаратара, чаму ён казаў знаёмым, быццам я агент КДБ. Крыху сумеўшыся, той патлумачыў — ты ж пісаў пра Освальда. Паводле гэтай лёгікі ён сам зьяўляўся сэксуальным маньякам, заафілам, нэкрафілам, сэрыйным забойцам і зрэдку іншаплянэтнікам.

Як казаў у падобных выпадках беларускі клясык Уладзімер Караткевіч:

«Хоць ты ўзвый на Месяц, стаўшы ракам!»

---

*Адзін з самых цытаваных аўтараў у сьвеце, радыкальны крытык амэрыканскай палітыкі зьлева, прафэсар Масачусэцкага тэхналягічнага інстытуту Ноам Чомскі, які нічога ніколі ня браў на веру, так выказаўся з нагоды тэорыяў змовы: «Ёсьць шмат супадзеньняў, нявытлумачаных зьяваў, чаму нешта здарылася, а нешта не. Калі паглядзець на кіраваны, кантраляваны навуковы экспэрымэнт у найлепшай лябараторыі — там таксама так. Там таксама шмат невытлумачальных рэчаў, дзіўных супадзеньняў. Паглядзіце на лісты, якія друкуюць у навукова-тэхнічных часопісах, такіх як «Nature», «Science» — пішуць пастаянна пра невытлумачальныя праявы ў тэхнічных экспэрымэнтах, як шмат рэчаў застаюцца без вытлумачэньня. Так створаны сьвет. Шмат розных рэчаў здараецца, пазьней можна іх аб'яднаць у якую-небудзь заканамернасьць, але раней нельга было. Але й гэтая заканамернасьць можа цалкам ня мець сэнсу. Проста такая прырода складаных падзеяў. Сьведчаньні, якія зь іх вынікаюць, ня маюць каштоўнасьці. Пераканаць, што гэта магло быць зроблена спэцыяльна, выклікае надзвычай малы давер... Велізарная энэргія кідаецца на пошукі, хто забіў Кенэдзі... Сотні людзей забіваюць увесь час, і што з таго, што адзін зь іх быў Кенэдзі? Калі б была падстава меркаваць, што існавала якая-небудзь змова ў вярхах, было б цікава, але доказы пра аднаго забойцу аглушальна пераканаўчыя». http://www.youtube.com/watch?NR=1&v=LoDqDvbgeXM



## Пераклады перакладаў перакладаў

Маршрут гэтага падарожжа пралягае праз дакумэнты КДБ, якія атрымаў і апублікаваў Мэйлер. Цымус у тым, што атрымаў ён іх па-расейску, а апублікаваў па-ангельску, а я з ангельскай перакладаў на беларускую. Але гэта ня ўсё. Некаторыя дакумэнты, якія атрымаў Мэйлер ад КДБ, былі перакладамі з ангельскай на расейскую, зь якой потым ён перакладаў на ангельскую, а затым я на беларускую.

І гэта ня ўсё — каб палагодзіць пытаньні з аўтарскімі правамі Мэйлера, быў адпраўлены ліст у амэрыканскае выдавецтва і праваўладальнікам, дзе апісвалася структура майго дасьледаваньня і ішла гаворка пра аўтарскае права на пераклады і пераклады зь перакладаў — натуральна, усё гэта зноў у перакладзе.

Вось як пішчом чытачу трэба лезьці ў тыя архівы КДБ.

А вось што атрымаецца, калі запусьціць выраз «пішчом лезьці» праз аўтаматычны перакладчык Google па ланцужку «беларуская — расейская — ангельская — беларуская»:

«Пішчом лезьці — пищат лезет — squeak climbs — складана падымаецца».

І сапраўды складана. Але падымаецца! Як падымаецца з кожным трапятаньнем бязважкі матылёк, ад крылцаў якога, як сьцьвярджаюць прыхільнікі тэорыі хаосу, можа нарадзіцца нават бура.

І некалі ж можна будзе зазірнуць і ў калекцыі КДБ, каб удакладніць пераклады, дый ня толькі іх.

Але гэта адбудзецца ўжо пасьля перайменаваньня другога паводле вядомасьці ў сьвеце расейскага слова з трох літараў.

Калі ня спаляць, як некалі ў апошнія гадзіны ГДР палілі архівы Штазі.

Хоць як спаліш сьляды матылькоў, што адляцелі?



## Хто сьмяецца апошнім

Гэтая лепідаптэралягічная экспэдыцыя па сьлядох Освальда была і дасьледаваньнем менскіх падарожжаў Нормана Мэйлера, які лавіў тут сваіх матылькоў.

Мэйлер упадабаў Менск:

**— Гэтая кніга пісалася лягчэй, чым іншыя мае кнігі. Я таксама атрымаў больш ад гэтай кнігі. Я люблю гэтую кнігу, таму што ў мяне быў надзвычайны досьвед жыцьця ў Менску. Я адчуў, а, чорт, мне ўжо даўно сёмы дзясятак, і я адчуў — я яшчэ не памёр. Зусім няблага. Я магу жыць у дзіўным месцы і шмат ад гэтага атрымліваць, і я плённа працую. Было весела.**

На заканчэньне нашай доўгай гутаркі я папрасіў аўтара ўявіць сюжэт: амэрыканскі пісьменьнік прыяжджае ў Менск, дзе атрымлівае матэрыялы сачэньня спэцслужбаў за амэрыканскім грамадзянінам, які жыў тут на пару дзесяцігодзьдзяў раней. Пісьменьнік наймае кватэру, сустракаецца з мно-



ствам людзей, заводзіць знаёмствы — і ўвесь час за ім вядуць назіраньне спэцслужбы, падслухоўваюць размовы, здымаюць гасьцей на відэа, прымушаюць знаёмых пісаць справаздачы. А потым, праз пару дзесяцігодзьдзяў, у Менск прыяжджае дасьледнік творчасьці гэтага амэрыканскага пісьменьніка і атрымлівае доступ да архіву спэцслужбаў...

Мэйлер засьмяяўся.



## Замест пасьляслоўя

Першай пакупкай Освальда ў Менску стала электравілка, сымбаль яго лёсу, што як матылёк біўся паміж плюсам і мінусам, пакуль не замкнуў напружаньне на сабе і не згарэў, пакінуўшы ўспамін, крохкі, як вугальныя лускачкі, і эфэмэрны, як дым.

Хоць можна сказаць і наадварот — чатыры мільёны аркушаў дакумэнтаў, што зьявіліся на сьвет з нагоды Освальда, рэч зусім не эфэмэрная. А рапарты вонкавага назіраньня КДБ апярэдзілі відэакамэры на дзесяцігодзьдзі і, дзякуючы ім, можна, як падарожніку ў часе — герою Брэдбэры, патрапіць у дзень Освальда ў Менску:

**У 11:00 Лі Гарві выйшаў з гатэлю «Менск» і пайшоў у ГУМ. Там зайшоў у аддзел электратавараў, нешта спытаўся ў прадаўца, дастаў з кішэні грошы і пайшоў да касы. Ні за што не заплаціў, паклаў грошы назад у кішэню і пачаў хадзіць па першым паверсе ўнівэрмагу туды і назад і разглядаць розныя тавары. Затым вярнуўся ў**



**аддзел электратавараў, заплаціў 2 рублі 25 капеек за электравілку, паклаў яе ў кішэню і падняўся на другі паверх. Там правёў некаторы час у аддзеле гатовага адзеньня, пераглядзеў наяўныя касьцюмы, затым выйшаў і хутка пайшоў...**

... я таксама выйшаў з гатэлю «Менск» і павярнуў налева, прайшоў паўз кінатэатар «Цэнтральны», абутковую і ювэлірную крамы, затым бясконцы жоўты дом з калёнамі, ззаду засталася заўсёды шматлюдная кнігарня, шакалядны аазіс, крамы кветак і сувэніраў і праз 5 хвілін я ўваходзіў у ГУМ, падышоў да аддзелу электратавараў, павітаўся з прадавачкай, дастаў з кішэні грошы, падышоў да касы, не заплаціў, а вырашыў прагуляцца па першым паверсе ўнівэрмагу туды і назад і паглядзець розныя тавары, падняўся на другі паверх у аддзел мужчынскага адзеньня, пераглядзеў наяўныя касьцюмы, вярнуўся ў аддзел электратавараў, заплаціў 1160 рублёў за электравілку, паклаў яе ў кішэню і хутка пайшоў на выхад.

Не з пустымі ж рукамі вяртацца.

## Падзякі

Аўтар удзячны ўсім, хто спрыяў пошукам і дзяліўся знаходкамі ў сваёй памяці, прыватных архівах, сямейных альбомах і іншых месцах, недаступных нават усемагутнаму Google — Аляўціне Вячорцы, Сьвятлане Лукашук, Інэсе Маркавай, Зянону Пазьняку, Эдуарду Сагындыкаву, Алене Сіваковай, Дэйвіду Суорцу, Станіславу Шушкевічу, Сяргею Ханжанкову, калегам з Радыё Свабода.

Нельга перабольшыць ролю, якую адыгралі ў гэтым паляваньні на матылькоў Стыў Пэтрэн, сваяк аўтара з Масачусэтсу, які здабыў тэкст першай публікацыі «Гістарычнага дзёньніку»; пісьменьнік Норман Мэйлер зь Нью Ёрку, які ахвотна даў аўтару працяглае інтэрвію; дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня Сяргей Навумчык, які бясстрашна і рашуча пашыраў беларускую галоснасьць і напісаў свае сьведчаньні для гэтага дасьледаваньня; пісьменьнік Уладзімер Арлоў, які перагарнуў рукапіс прыдзірлівай рукой гісторыка і лёгкай рукой паэта.

Трафэі гэтай экспэдыцыі ніколі б не пабачылі сьвет без прафэсійных лепідаптэрыстаў — мастака Генадзя Мацура, чыё каліграфічнае пяро ўмее лятаць, вёрстка чытаецца як верш, а вокладкі экспануюцца на выставах, і рэдактара Сяргея Дубаўца, чые парадаксальныя, як зігзагі матылька, прапановы, вострыя, як шпількі для калекцыі лускакрылых, заўвагі, падрабязныя, як навука энтамалёгія, парады аўтар стараўся ўвасобіць, наколькі мог.

Усе недакладнасьці, прабелы і недарэчнасьці — заслуга самога аўтара, за якую ён гатовы панесьці якое-небудзь лёгкае пакараньне, напрыклад, паспрабаваць амаль немагчымае — злавіць у палёце матылька.

І адпусьціць.



## Асноўныя крыніцы

Report of the President's Commission on the Assasination of President John F. Kennedy and 26 accompanying volumes of Hearings and Exhibits. Washington D.C. US Government Printing Office, 1964

http://www.history-matters. com*

Who Was Lee Harvey Oswald? Documentary, Frontline —WGBH, Boston -PBS, 1993

Priscilla McMillan. Marina and Lee. New York, Harper and Row, 1977

Norman Mailer. Oswald's Tale. An American Mystery. New York, Random House, 1995

Ernst Tsitovets. Oswald. Russian episode. Minsk. 2010

Газэта «Звязда», 1959-1962 гг.

Газэта «Советская Белоруссия», 1959-1962 гг.

Дзяржаўны архіў кінафотафонадакумэнтаў Беларусі, Дзяржынск

*Гэты сайт (у перакладзе — «Справы гісторыі» ці «Гісторыя мае значэньне») дае найбольш поўны доступ да амэрыканскіх першакрыніцаў у Інтэрнэце. Яго кіраўнік Рэкс Брэдфард тлумачыць: «Мэта гэтага вэбсайту і наагул праекту «Гісторыя мае значэньне» — праліць неабходнае сьвятло на цьмяныя аспэкты амэрыканскай паваеннай палітыкі, асабліва на забойствы 1960-х. Хлусьня і міты пра гэтыя забойствы стварылі «чорную дзірку гісторыі», якая скажае наша разуменьне ўсяго пэрыяду. Урэшце, няздольнасьць паглядзець у твар сваёй сапраўднай гісторыі стварае пагрозу дэмакратыі і свабодзе».

# Паказьнік асобаў*



*За выключэньнем Лі Гарві Освальда.

## Пра аўтара

Аляксандар Лукашук нарадзіўся ў 1955 у Берасьці, вучыўся ў Менску, працаваў перакладчыкам, журналістам, рэдактарам. У 1990-1992 быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь». З 1993 — на Радыё Свабода, з 1999 дырэктар Беларускай службы РС. У 2004-2005 быў дырэктарам Радыё «Свабодны Афганістан», у 2007-2008 выконваў абавязкі галоўнага рэдактара Радыё Свабода/Радыё Свабодная Эўропа. Стыпэндыянт Гувэрскага інстытуту, Стэнфардзкі ўнівэрсітэт, Каліфорнія, 2000.

Адзін з заснавальнікаў «Мартыралёгу Беларусі», у 1990-1995 — сябра Камісіі Вярхоўнага Савету Беларусі па правах ахвяраў палітычных рэпрэсій. Аўтар дасьледаваньняў гісторыі 20-га стагодзьдзя, у тым ліку кніг «Зьдзек» (1988), «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста» (1997), «За кіпучай чэкісцкай работай» (1997), «Прыгоды АРА ў Беларусі» (2005), кнігі дакумэнтальнай прозы «У фіялетавай ночы вугал крыла» (1999).

Аўтар больш чым ста артыкулаў і інтэрвію пра палітычную сытуацыю Беларусі ў амэрыканскіх і замежных эўрапейскіх СМІ.

Сцэнарыст фільмаў «Трагедыя Арменіі» (1990), «Дэпутаты» (1992), «Дарога на Курапаты» (Дзяржаўная прэмія Беларусі ,1994), і іншых.

Ляўрэат міжнароднай прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага Пэн-цэнтру.

Жыве ў Празе.



## Summary

«Trace of a Butterfly» is the story of Lee Harvey Oswald's life in Minsk, Belarus from January 1960 through May 1962 — as told through secret audio and video surveillance files of the KGB, Oswald's own journals, and the recollections of his friends and lovers. In prose both lapidary and ironic, author Alexander Lukashuk resurrects all the challenges and joys of life in a provincial Soviet industrial center of the Krushchev era — with all its Orwellian propaganda and Kafkaesque reality. Famed Oswald biographer Norman Mailer, who himself lived in Minsk in the early 90s, was interviewed extensively by Lukashuk and becomes the book's second protagonist.

At once a literary feast and a mockery of Oswaldian mythology, «Trace of a Butterfly» is a delectable double treat.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.




**Дарога
праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2002. —
464 с.: іл.




**Poems on Liberty:
Reflections for
Belarus.**
*Пераклады Веры
Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў
клясыка беларускай
літаратуры ў этэры
Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004.




**Дуліна
ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2004. —
254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА
ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд.,
дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2005. —
520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская
Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—
25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2006. —
400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі года ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.